

Тамара Бялькевіч → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Пяючыя сем'і → 4

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 45 (3313) Год LXIV | Беласток, 10 лістапада 2019 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

## Што здарылася са светам, які пакінулі
# Валовічы сакальшчанам?

**На пачатку лістапада з пахам згнілага лісця і шэрым краявідам агаленых дрэў, пачынаем задумвацца над канцом, і магчымым пачаткам нечага новага. Пастаянна наведваюць нас думкі аб гэтым, ці зможам разабрацца з чымсьці канчатковым і найбольш балючым. І не мяняе таго факт, што кожнаму нехта памёр і кожны калісьці памрэ — натуральнасць гэтага працэсу ўсё-такі не палягчае яго адабрэння. Менавіта таму прасцей за ўсё звярнуцца да ўяўленняў, можа крыху фальклорных, але якія стагоддзямі практыкаваліся беларусамі і былі моцна звязаны з жыццём. У той час варта падацца ў месцы, дзе, паводле мясцовых, жывыя могуць сустрэць памерлых, а ў Паўловічах памерлі не толькі няшчасныя каханкі, але і вялікая гісторыя таго месца.**



Гэтым роздумам спрыяе дзень Усіх святых. Католікі 1 лістапада ўспамінаюць тых, якія сваім жыццём і верай у Бога заслужылі, каб цешыцца вечным жыццём у небе. 2 лістапада адзначаюцца Задушкі, у час якіх успамінаецца ўсіх блізкіх памерлых і тых, якія не знайшлі спакою на гэтай зямлі. Асаблівым часам з'яўляецца ноч з 1 па 2 лістапада калі, паводле вераванняў продкаў, на зямлю вяртаюцца душы звольненыя з чыстца. Задушкі найчасцей супадаюць з народным святам Дзяды. Нашы продкі ведалі як сустрэцца з блізкімі нам людзьмі і дапамагчы ім. Ніхто з нас не можа ўявіць, як будзе выглядаць цела пасля ўваскрэсення, нават калі мы ведаем інтэрпрэтацыю Касцёла. Нашы веды пра смерць — гэта сувязь з жыццём і досведам, які маем.



15 кіламетраў на поўнач ад Саколкі знаходзіцца невялікая вёсачка Паўловічы, якая сваю назву ўзяла ад імя ўласніка Паўла Валовіча. Літоўскі падскарбі ў 1610 годзе, хаця гэта быў перыяд барока, пабудаваў палац у класічным стылі. Зараз гэта найстарэйшы палац на Падляшшы, пабудаваны ў гэтым стылі. На ўваходзе ў будынак можна ўбачыць арыгінальную дошку з лацінскім надпісам: «Што вы хочаце для сябе, зрабіце і іншым». Надпіс, як і палац можна толькі ўбачыць з-за высокага плота. Як сказаў мясцовы ксёндз Войцех Маркоўскі, знайшліся яго спадкаемцы, якія пакрылі палац новым дахам і абгарадзілі з усіх бакоў. Пасля вайны маёмасць была раскрадзена, парк высечаны, збурылі царскія казармы, а сам палац пачалі разбіраць. Устрымаліся толькі пасля інтэрвенцыі прафесара Паўла Кулакоўскага, нашчадка апошніх уласнікаў палаца. Дзякуючы таму спынілі развал, а палац нават быў адноўлены ў 1959-1966 гадах дзеля таго, каб адкрыць тут пачатковую школу, якая з часам была закрыта па дэмаграфічных прычынах.



Землі нашай малой бацькаўшчыны, дзікія і зарослыя пушчай, вялікія літоўскія князі давалі літоўскім і рускім магнатам і іх давераным людзям. Адным з іх былі Валовічы, якія мелі тут сваю ўласнасць з XVI стагоддзя і, дзякуючы ім, паўсталі такія вёскі як Трасцянка, што на Сакольшчыне, Чарнысток, Скіндзер, Беласток (сёння раён горада — Беласточак). Фундавалі яны касцёлы — у Сакалянах і Залессі, будавалі школы. Дзякуючы ім Саколка стала горадам.

«Ostafi Wołłowicz pochodził z rodziny prawosławnej, ruskiej. Sami Wołłowicze nazywali siebie Rusinami, wpisując się do metryk uniwersytetów zagranicznych. Rodzina ta jednak wywodziła się z powiatu oszmiańskiego (Bienica, Marków, Kurzeniec); przodkiem jej był Girdwid Bielik Wojłowicz, bojar Korybuta 1, niewątpliwie Litwin, który przyjął wraz z Korybutem prawosławie» (Tomasz Wasilewski, *Testament ostatniego Wołłowicza*, 1962).

Дарога ў палац зарасла кустамі, але высокія дрэвы паказваюць куды вяла дарога. На пачатку былой дарогі ляжыць валун з высечаным крыжам. Існуюць розныя тлумачэнні на існаванне гэтага каменя, але адна здаецца быць найбольш верагоднай. Вось, па прыкладзе Мікалая Чорнага Радзівіла, Астафій захапіўся кальвінізмам і арыянствам. Хоць Астафі да смерці заставаўся вернікам евангельскай рэфармаванай царквы, у 1582 г. заснаваў бальніцу і евангельскія могілкі ў Вільні. Менавіта дзякуючы фінансавай падтрымцы Астафія, Сымон Будны выдаў у Нясвіжы дзве кнігі: «Пра апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» і «Катэхізіс». Іншы арыянскі дзеяч Васіль Цяпінскі быў дваранінам Астафія. У другой палове XVI стагоддзя Астафі Валовіч пабудаваў замак і кальвінісцкую царкву ў Сідры. З XVII па XIX стагоддзе Сідра была адным з галоўных цэнтраў кальвінізму ў Рэчы Паспалітай. Астафі не адмовіўся ад праваслаўя, аднак стаў заўзятым прыхільнікам арыянства. Верагодна ў Паўловічах пры летняй рэзідэнцыі Валовічаў знаходзіўся кальвінскі збор, а валун з крыжам гэта фрагмент храма. Затое доказам на гэта, што асяродкам кальвінізму на Гарадзеншчыне была Сідра, з'яўляецца хутар Кальвіншчына побач Сідры, які пад такой назвай захаваўся да сёння.

З палацам таксама звязана трагічная легенда, якая дараўноўвае гісторыі Гальшанскага замка. Вось даўно ў спадчынніка Паўла Валовіча была прыгожая дачка, якая, аднак, закахалася ў маладога канюшага. Бацька забараніў дачцэ сустракацца са слугам і нейкі час яна сапраўды паслухала бацьку і пакінула вялікую любоў. Аднак пачуццё аказалася мацнейшым. Калі раз'юшаны спадчыннік убачыў сваю дачку ў абдымках канюшага, у ім закіпела кроў і загадаў замураваць дачку ў сценах палаца, але толькі напалову, каб яна яшчэ больш пакутавала. Калі яна памерла, яе замуравалі да канца, а побач замуравалі і любімага канюшага. Да гэтага часу можна пабачыць дзве паражніны ля лесвіцы, якая вядзе ў падвал. Канюшня, у якой даглядаў коней каханы прыгожай дачкі ўласніка, захавалася да сёння. Нібыта тут маладыя каханкі сустракаюцца да сёння, а іх бледныя постаці некаторыя бачылі з-за густых кустоў і дрэў. Сёння мясцовыя махаюць рукой на пытанне пра каханкаў, але каб хадзіць у тое месца, не ходзяць, бо: «Не трэба».

Сёння пры палацы чуваць толькі карканне варон, якія знайшлі сабе месцы ў старых кронах дрэў. Ад нейкай суцэльнасці адгароджвае блізкая мяжа з Беларуссю, якая паўплывала на краявід і дэмаграфію гэтай вёскі. Маючы на ўвазе перыяд росквіту і славы Валовічаў, можна тут знайсці нейкі канец — канец гісторыі «будаўнічых» Сакольшчыны. І магчыма канец вялікага нешчаслівага кахання. Было яно так завершанае ці не, каб даехаць у палац трэба мінуць касцёл, каплічку з фрасаблівым Хрыстом, могілкі, і зараз пры палацы каплічку з Маці Божай, якой фундатарам з'яўляюцца вернікі парафіі ў Залессі.

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**



# Дэпутаты Каліноўскага (2)

Надвор'е 27 кастрычніка ў Свіслачы было сапраўды цудоўнае. Я пра тое меў гонар крыху распавесці ў мінулым фельетоне „Дэпутаты Каліноўскага". А ў гэтым хачу больш падрабязна расказаць пра саму арганізацыю мерапрыемства, на якое патрыёты з'язджаюцца ў Свіслач, каб ушанаваць памяць паўстанцаў і іншых вяяроў, што аддалі свае жыцці за Беларусь. А яшчэ хочацца крыху закрануць пра тое, як гэты невялічкі раённы цэнтр сустрэў гасцей.

Ну, з сустрэчай усё прасцей. Тут не толькі беларускія патрыёты, але і сённяшнія ўлады парушаць свае ўсталяваныя гадамі традыцыі не сталі. І на могілках, дзе пахаваны Віктар Каліноўскі, ужо як і ў мінулым годзе дзяжурылі людзі ў цывільным. Хоць па ўсім было бачна, што яны не цывільныя. Работа ў іх такая. Народ службовы, падняволны, куды загадаюць, туды і мусяць ісці. Яны тут усіх ведаюць, і іх ужо ўсе пазнаюць таксама. Нават стромкую дзяўчыну, якая здымала ўсіх на відэа, а сваё аблічча захутала шалікам, таксама пазналі. Па фігуры. Фігура харошая. Відаць сочаць за ёй. Вось бы так нашы сілавікі сачылі за выкананнем заканадаўства і абаранялі правы суайчыннікаў на мірныя сходы! Выглядалі б гэтак жа хораша. У духоўным аспекце, вядома ж.

Ну а цяперашнія госці Свіслачы да камер даўно прывыклі. І да відэакамер, і да іншых, таму на тую апаратуру не рэагавалі. Хоць хацелася падысці і спытаць, ці ўсе сустрэчы з кандыдатамі ў дэпутаты свіслацкія сілавікі на відэа здымаюць. Бо афіцыйна то, як я ўжо тлумачыў у мінулым фельетоне, адбывалася сустрэча з кандыдатам у дэпутаты Максімам Губарэвічам. Але не для таго тут сабраліся, каб з міліцыяй спрачацца. Ёсць справы важнейшыя. Ды і ўрачыстасць моманту не прадугледжвае непатрэбных перапалак.

А вось арганізацыя мерапрыемства, хоць усё выглядала традыцыйна і нібыта аднолькава з году ў год, насамрэч мае пэўныя асаблівасці. У гэтым годзе, прыкладам, вырашылі ехаць аўтобусам. На дарогу скінуліся. А вось на кветкі, свечкі, лампады і штогадовую заклічную імпрэзу, калі ля вогнішча вітае вольны дух нашых продкаў, а пад сяброўскія размовы ў языках агеньчыка трашчаць на штыкецінах каўбаскі з салам, скідвацца не спатрэбілася. Бо тое зрабіла яшчэ адна маладая асоба з ідэальнай фігурай. Гэта Аляксандра Васілевіч. Некалькі гадоў таму яна кіравала гарадзенскай арганізацыяй АГП. Але лёс так склаўся, што вымушаная была паехаць у ЗША. І там працуе дальнабойшчыцай на фуры. Але Радзімы не забывае. І на такое ўрачыстае мерапрыемства знайшла магчымасць зрабіць свой унёсак. Ну што ж. Як бачым, каб насіць ганаровае званне Дэпутата Каліноўскага, можна і з самой Амерыкі нешта зрабіць.

Вельмі цешуся, што ёсць нагода напісаць пра гэта. Бо багата ведаю тых, хто стаў апазіцыянерам, каб паехаць туды. А там, нават бела-чырвона-белым сцягам памахаць на Дзень Волі не ў стане. Але ёсць і такія, хто не здраджвае сваім перакананням і ідэалам у кожным месцы, куды б не закінуў лёс. Хто гонар належыць да паўстанцкай нацыі цэніць і шануе. І не зрачэцца ні сваіх перакананняў, ні сваіх сяброў, якія штогод прыязджаюць у Свіслач схіліць галовы перад памяццю сваіх вялікіх продкаў...

— Мы зараз стаім на магіле яшчэ аднаго патрыёта, які быў ля вытокаў гэтай традыцыі, і які сваім жыццём паказаў, што значыць быць сапраўдным беларусам, — скажа Юрась Глебік на магіле свіслацкага патрыёта Віктара Дзесяцікa.

І пасля гэтых слоў, гэтак жа як пасля ўрачыстай прамовы ля магілы Віктара Каліноўскага, прысутныя застынуць у хвіліне маўчання... Ветрык будзе лёгенька цярэбіць восеньскае лісце на дрэвах свіслацкіх могілак нібыта таксама аддаючы даніну павагі яшчэ аднаму Дэпутату Каліноўскага... Як быццам бы нагадваючы ўсім, што ўсе памруць, але важным ёсць, як пражылі...

А бела-чырвона-белыя сцягі дапоўнілі сабой восеньскія колеры. Вось сапраўды, як яны гарманічна ўпісваюцца ў прыродную палітру! І гонар трымаць такія колеры выпаў менавіта нашаму народу... Трэба цаніць такі гонар!

Пасля могілак прысутныя рушылі да помніка Кастусю Каліноўскаму. А вось пра гэта распавяду ў наступным матэрыяле. Як кажуць — добрага пакрысе. Але да даты перазахавання парэшткаў Кастуся Каліноўскага ў Вільні, пра сёлетняе свіслацкае мерапрыемства, дапісаць пастараюся паспець.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Стругaнне палачак



Сумую за «шэраю гадзінай». Яна станавілася паміж змяркaннем і ноччу, незалежна ад пары года, незалежна ад месяца, горада ці вёскі. Я мэтанакіравана выкарыстоўваю тут мінулы час, таму што ад «шэрай гадзіны» перш адмовіўся горад зачараваны штучным святлом і прагрэсам. Потым вёска. Я не хачу сказаць, што прагрэс дрэнны. Аднак часам варта павярнуць назад, каб убачыць, што страчана на гэтым шляху. І няхай не назаўжды. Дык якая была «шэрая гадзіна»? Я памятаю яе з дзяцінства, калі прыязджаў у вёску з майго хаатычнага горада. Не мела пазначанага месца на гадзінніку паўсядзённых падзей. Або станавілася яна, або не, але заўсёды, калі ўправіліся ў гаспадарцы, была з'едзена апошняя ежа дня, і сям'я, якая сабралася за кухонным сталом, акуналася ў меланхоліі мінаючага дня. Самыя прыгожыя «шэрыя гадзіны» былі летам. Але і ўзімку, калі заўчасная цемра была рассеяна агнём газавай лямпы, і ў печы дагаралі палены, калі надыходзіў час вячэрняга аповеду, які, сцішанай гаворкай дарослых закалыхваў дзяцей, была і самай прыгожай. Самае прыгожае тое, чаго нам не хапае. І тое, што не вернецца. «Шэрыя гадзіны», іх маўклівасць і слуханне іх не вернуцца. Вобразы і словы пераслалі выплываць з чалавечых сэрцаў. Цяпер яны коцяцца ў бесперапынным патоку з экрана камп'ютара і экрана тэлевізара; з брынкання радыёпрыёмніка. Але ці дастаткова іх, каб запоўніць разрыў паміж размовай і пустым каментарыем, па-чалавечы прысутным услухваннем і непрысутным маўчаннем?..

У пару «шэрай гадзіны», калі ўжо не відна, але і зусім не цёмна, жанчыны ў вёсцы бралі калаўротак альбо вязалі; а мужыкі стругалі свае «палачкі». Адны плялі кошыкі, іншыя ладзілі конскую збрую; хтосьці рэзаў тытунь, хтосьці чытаў газету ці нават Біблію, гэта значыць, што трэба зрабіць да часу заслужанага сну. Дзед стругаў драўляныя зубы ад разбітых грабляў. У той час граблі былі драўляныя, не жалезныя, не пластмасавыя. Дзед прыносіў дахаты парэзаныя раней палачкі і, сеўшы на зэдліку, як мага бліжэй да святла з печы, са стаханаўскай заўзятасцю стругаў тыя зубы ў такой колькасці, што іх хапіла б на некалькі дзясяткаў грабляў. Я таксама «стругаю» — словы. Так ці інакш, палкі ці словы, у чым розніца? Важна тое, як нешта робіш, а не што. Як казаў дзед, і бабуля паўтарала за ім, хітрасць не ў тым, каб зрабіць што-небудзь правільна, але зрабіць гэта дастаткова добра. Так рабіў і мой дзед. Нягледзячы на тое, што я ламаў дзясяткі зубоў, махаючы граблямі так горача, што яны шчарбелі, як малочныя зубы ў сківіцах пражэрлівых ваўчанят, заўсёды іх хапала падчас сенакосу і жніва. Ой, лаяў мяне дзедка за тыя паламаная зубы! І ўсё ж за кавалак добра зробленай працы, хутка і акуратна ўладкаванае сена ён ніколі не пахваліў. Яму было відавочна, што трэба працаваць дастаткова добра, не шкадуючы ні сілы, ні ўмеласці. У агульным балансе лічылася цэласць. Вымова — за пашкоджаны інструмент. За добра зробленую працу — уласнае задавальненне. Калі я аналізую аналогію стругання і пісання слоў, знаходжу агульны назоўнік як для майго дзеда, так і для майго характару. Што б мы ні рабілі, мы рабілі гэта з захапленнем і вялікай самааддачай. Але захапленне і самааддана каштуюць фунт кастрыцы, калі яны становяцца лішнімі, альбо калі перавышаюць свой час. Па сённяшні дзень я знаходжу «зубы» грабляў па розных кутках, якія дасталіся мне ад майго дзеда. Я не выкідваю іх, напэўна, з-за настрою да страчаных часоў «шэрай гадзіны», але мне таксама цікава, чаму, халера, я іх трымаю, бо ў маім гаспадарчым арсенале няма драўляных грабляў. Яны толькі з жалеза і пластыку, і дастатковыя для маіх патрэб. У гэтых кранальных знаходках мінулай эпохі я знаходжу напружанае жыццё майго дзеда, яго хвалянні. Яго намаганні. Яго здольнасць прадбачыць і прадухіліць магчымую шкоду, якую я мог бы зрабіць са сваёй стараннасцю. Толькі ў гэтым пытанні мой дзед пераацаніў — маю лішнюю стараннасць, дэструкцыйную ў выніках, але і сваё ўласнае намаганне, неабходнае ў дадзены момант часу, але ўсё больш бескарыснае ў меру прагрэсавання цывілізацыі. Хто ведае, ці ідэалогія прагрэсу, якім сучасны чалавек так усхваляваны, не перадолела яго адаптацыйных магчымасцей. Няхай яго намаганні па адаптацыі да патрабаванняў сучаснасці не стануць лішнімі. Таму што прагрэс — гэта не толькі новыя тэхналогіі. Гэта таксама новыя культурныя мадэлі і сацыяльныя коды, новыя ментальныя навыкі.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Час памяці

Пачатак мінулага тыдня ў беларуска-праваслаўнай прасторы Падляшша прайшоў пад дзвюма знамянальнымі падзеямі. Праграма сесіі рады горада Беластока ў панядзелак 28 кастрычніка прадвяшчала вялікія эмоцыі. А ўсё дзякуючы пункту ў праграме, які меў вынесці на галасаванне перайменаванне вуліцы імя Зыгмунта Шэндзеляжа псеўданім „Лупашка" на вуліцу Падляшскую. Прыгадайма, што ў камандзіра „Лупашкі" і яго жаўнераў ёсць на сумленні цывільныя ахвяры з ліку літоўцаў Віленшчыны і праваслаўных беларусаў са спаленых падляшскіх вёсак Патока, Вілюкі і Доўгі Брод.

Ініцыятарамі змены было чатырох праваслаўных радных з «Форуму меншасцей Падляшша» — членаў клуба Грамадзянскай платформы, які разам налічвае 16 радных, што складае большасць у беластоцкай гарадской радзе з 27 дэпутатаў. Здавалася б, што пры такой раскладцы галасоў апазіцыйны клуб Права і справядлівасці, той, які раней, маючы перавагу ў радзе папярэдняга склікання прыняў супярэчлівую назву вуліцы, не мае шанцаў у галасаванні. Але як аказалася на практыцы, змена назвы вуліцы адбылася пры перавазе толькі... аднаго голасу — трынаццаць да дванаццаці. Адкуль такое ўзялося? Па-першае двое радных з Грамадзянскай платформы Іавіта Худзік і Марцін Москва не прынялі ўдзелу ў пасяджэнні рады. Згаданыя асобы гэта вельмі блізкія супрацоўнікі лідара тутэйшай Грамадзянскай платформы Роберта Тышкевіча. Трэцяй асобай з гэтага клуба, якая прагаласавала разам з апазіцыяй, аказаўся былы футбаліст, а зараз працаўнік беластоцкага футбольнага клуба «Ягелонія» Рафал Грыб. У выпадку такога а не іншага галасавання, мабыць, не будзе таямніцай пазіцыя фанатаў футбольнага клуба, якія падтрымліваюць крайне нацыяналістычныя групоўкі. Падтрымаць радных, прыхільнікаў камандзіра „Лупашкі", з'явілася шматлюдная і баявітая публіка, якая маёра, а зараз палкоўніка Зыгмунта Шэндзеляжа лічыць сваім героем і патрыятычным узорам. У такой атмасферы галасаванне за адмену назвы вуліцы для кожнага з радных — прыхільнікаў адмены назвы — было напэўна вялікім псіхалагічна-грамадскім выклікам. Маю тут на ўвазе бязгрэшны, а затым безрэфлексійны культ выклятых жаўнераў, які зараз з'яўляецца галоўным элементам гістарычна-адукацыйнай палітыкі сённяшніх улад. Таму на жаль, як сёння відаць, з якой хваляй варажнечы і ціску сустрэліся прыхільнікі адмены назвы вуліцы.

Вынік галасавання на практыцы абазначае, што неўзабаве ў Беластоку будзем мець дачыненне з рознымі ініцыятывамі ўшанавання аднаго з сімвалаў пасляваеннага польскага ўзброенага падполля, якога культ пашыраецца на агульнадзяржаўным узроўні. Ужо сёння можна прадбачыць, што з'яўленне помніка „Лупашку" ў гарадской прасторы Беластока будзе справай бліжэйшых некалькіх месяцаў.

Злачынствы „Лупашкі" на мірных беларускіх жыхарах Падляшша гэта невялікая частка таго, што мэтанакіравана здзейсніў атрад Нацыянальнага вайсковага задзіночання пад камандаваннем капітана Рамуальда Райса „Бурага". Яго рэйд па Беласточчынне гэта спаленыя нашы вёскі і цывільныя смяротныя ахвяры. Сярод іх і трыццаць закатаваных 31 студзеня 1946 года беларускіх вазакоў у лесе каля Пухалаў-Старых. Рашэннем Сабора Епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ад 29 кастрычніка 2019 года да ліку святых мучанікаў Падляшскай і Холмскай зямлі далучаны імёны згаданых трыццаці вазакоў, парэшткі якіх перапахаваны на могілках у Бельску-Падляшскім. Дзень малітоўнага ўшанавання мучанікаў-вазакоў устаноўлены Саборам Епіскапаў на апошнюю суботу ліпеня — у дзень Залешанскай Іконы Божай Маці.

Такім чынам нічым невінаватыя людзі, якіх віной у вачах „Бурага" быў толькі адзін факт, што выпала ім нарадзіцца і жыць беларусамі, і то праваслаўнымі, дачакаліся вечнай памяці не толькі ў нашым свецкім, але і духоўным вымярэнні. Няхай гістарычная і Божая справядлівасць ахоўвае памяць усіх нявінна загінуўшых нашых продкаў з рук усіх тых сіл, якім перашкаджала, што зваліся беларусамі.

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Заўсёды ў маім класе ёсць Пагоня

**Тамара БЯЛЬКЕВІЧ** родам з Кнаразоў каля Бельска-Падляшскага. Закончыла Варшаўскі ўніверсітэт па спецыяльнасці беларуская і руская філалогія. У школе ў Гарадку працавала 22 гады, а цяпер працуе ў Нарве. Жыве ў Беластоку.





Тамара Бялькевіч з сынам Міхасём

**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Ужо ў пачатковай школе я ведала, што хачу працаваць з дзяцьмі. З сяброўкамі мы часта гулялі ў школу. Маёй марай была праца ў прадшколлі. Мне вельмі падабалася родная мова і я паступіла на беларускую філалогію ў Варшаву. Скончыла і праз два гады пачала працаваць у Гарадку.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Ідэалам настаўніка роднай мовы для мяне ёсць мая сяброўка Ніна Абрамюк.

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Калі я працавала ў Гарадку, увесь час супрацоўнічала з Нінай Абрамюк са школы ў Нарве. Была гэта адна з бліжэйшых па адлегласці школ, з якой можна было наладзіць кантакт і арганізаваць рознага тыпу мерапрыемствы. А было гэтага многа, цікава і ёсць што ўспамінаць. Цяпер, калі я працую ў Нарве, думаю, што буду супрацоўнічаць са школай у Гарадку і яе настаўніцамі Эляй Раманчук і Аннай Грэсь.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— Пакрысе ад кожнай арганізацыі, якія ў нас дзейнічаюць, ідзе нейкая дапамога.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— У Гарадку я арганізавала такія праекты, як „Сяброўскія сустрэчы", „Каб жар не згас", „Этнаграфічныя экспедыцыі", музычна-тэатральны гуртак „Мінутка". Не ведаю ці можна назваць гэта праектам, але ў школе доўгія гады вучыла і вучу дзяцей вышыўцы.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Мае вучні прымаюць удзел у розных конкурсах. Тыя з іх, якія ім падабаюцца, і мае любімыя.

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Так, я заўсёды магу разлічваць на дапамогу бацькоў, школы і гміны. Без дапамогі ці падтрымкі было б намнога больш складана працаваць.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для Вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Па-мойму навучанне па прынцыпе добраахвотнасці гэта складанасць. Козыр тут адзін — настаўнік мусіць так падрыхтаваць урокі, каб заахвоціць дзяцей да беларускай мовы. Думаю, што тут, дзе пражываюць беларусы, гэты прадмет павінен быць абавязковым.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Гэта залежыць ад класа. Часам ёсць так, што з адным зраблю ўвесь матэрыял, а з іншым не хапае часу. Цяпер дзеці вельмі рухлівыя, гіперактыўныя, маюць недастатковую канцэнтрацыю ўвагі.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

— У мяне пяць лаўрэатаў.

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Я на падручнікі не наракаю. Для мяне важным, каб яны былі. Цяпер маю праблему з падручнікамі для 5 і 6 класаў — маем толькі некалькі кніжак. Але падручнікі гэта не ўсё — можна пакарыстацца іншымі матэрыяламі.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— „Лемантар".

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Максім Багдановіч, Уладзімір Караткевіч і Віктар Швед.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— „У вайны не жаночае аблічча" Святланы Алексіевіч.

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— З вучнямі падпісваемся на „Ніву" і яе чытаем.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— Басовішча.

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі пабеларуску па-за ўрокамі, школай?**

— І ў Гарадку, і ў Нарве, па-за ўрокамі і на перапынках з вучнямі, настаўнікамі і іншымі працаўнікамі школы я гаварыла і гавару па-беларуску і на гаворцы.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Пэўна былі, але цяжка цяпер узгадаць.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Стамляюць даезды на працу. На іх губляю тры гадзіны кожнага дня.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Паўлік Гжэсь, Андрэй Паплаўскі, Раксана Завадзкая.

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— Атрымала я ўзнагароды дырэктара школы, войта гміны Гарадок, медаль Камісіі нацыянальнай адукацыі.

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Свядомасць таго, што заўтра будзе новы дзень, які напэўна прынясе нешта іншае, больш або менш цікавае.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— З вялікай прыемнасцю ўспамінаю пачаткі сваёй працы — пяць першых гадоў у Гарадку. Цікавая ўсяму моладзь, адзін дзённік, даўгапіс, тры педагагічныя рады...

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Колькі працую, заўсёды ў маім класе вісіць Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Тут многа залежыць ад бацькоў, ад выхавання ў сям'і. А ўсе зацікаўленыя тэмай ведаюць і бачаць, як ёсць.

Апытальнік правяла **Ганна КАНДРАЦЮК**

## Час задумы і рэфлексіі

Пятніца, 1 лістапада, Усіх Святых. У гэты дзень наведваем магілы памерлых суродзічаў, а ў знак памяці запальваем лампадкі і ставім букеты хрызантэм. Раней традыцыю Дзядоў адзначалі ў Каталіцкім касцёле. Зараз і ў Праваслаўнай царкве служацца набажэнствы. У Кузаве ў царкве св. велікамучаніцы Варвары святочную літургію служыў а. Рыгор Наўмовіч з двума прыезджымі святарамі. У абедні час служыўся малебен на могільніку. На кузаўскім могільніку пакояцца астанкі маіх бацькоў Хведара Раманавіча ды Вольгі Сцяпанаўны. У Дубяжыне пахавана дачушка Галінка, а на могільніку ў Чаромсе-Станцы спачывае светлай памяці мая жонка Анна Сцяпанаўна, маці дачок і бабуля ўнукаў. Як штогод, так і сёлета разам з дочкамі маліліся мы за вечны супакой Анны Сцяпанаўны і Галінкі.

З сумам адзначаю, што апошнія пяць гадоў не магу ўдзельнічаць у традыцыйным святкаванні па прычыне хворых ног. Здаецца, быццам бы ўчора ў кампаніі сяброў-кіношнікаў падаваліся мы з Войшак у „сваты" ў Дубяжын. Калі гэта было? Гадоў больш за пяцьдзясят будзе. Тады канчалася маё бестурботнае кавалерства. Пачыналася новае, нязведанае лёсам жыццё.

Зараз у Дубяжыне нікога з цесцевых сямейнікаў няма ў жывых. Пакояцца яны на мясцовым могільніку разам з дачушкай Галінкай. Лампадкі на магіле сястрычкі запаліла сёлета Алінка з Беластока разам са сваімі дзяцьмі Кшысем і Кінгай. А я за іхняе спакойнае спачыванне ў царстве нябесным згаварыў вячэрнюю малітву.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Яны вечарамі вышываюць

Некаторыя вясковыя гаспадыні ў Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета займаюцца ручной вышыўкай. Яны вышываюць ручнікі, макаткі, белыя навалачкі на падушкі і... карціны. Да гэтага трэба мець заміласванне і цярплівасць. Вышывальніцы разнаколерныя ніткі купляюць у крамах з махрой і мулінай або на базары ў Гайнаўцы.

Цяпер у доўгія асеннія вечары вышываюць, між іншым, Тамара Скепка з Забрадоў, Зіна Рубчэўская, Яўгенія Смольская і Марыя Целушэцкая з Новага Ляўкова, Ірэна Ігнацюк і Галіна Прычыніч са Старога Ляўкова, Лідзія Харкевіч з Лешукоў, Данута Каліноўская з Новага Масева, Лена Харкевіч, Малгажата Краўчык, Галіна Бірыцкая (яна вышывае на працягу ўсяго года) і Люцына Зданоўская з Плянты, Галіна Вяжхоўская з Заблотчыны ды Альжбета Матысюк і Галіна Панькоўская з Семяноўкі. **(яц)**

## Нашы чытачы

Я пасля трыццаці гадоў вярнуўся жыць у бацькоўскі дом у Новым Ляўкове Нараўчанскай гміны і адразу шукаў сярод тутэйшых жыхароў людзей, якім наш беларускі штотыднёвік дарагі. Пачаў купляць і прывозіць нашу беларускую газету з Беластока, Гайнаўкі і Нараўкі аднавяскоўцам і жыхарам суседніх вёсак. Заахвочваў іх да чытання. Не заўсёды знаходзіў зразуменне і падтрымку для сваіх намаганняў. Цешыла мяне тое, што былі гэта рэдкія выпадкі.

Як гэта бывае, не заўсёды трапна знаходзіў я верных чытачоў нашага роднага часопіса. На гэта трэба было крыху часу, каб быць упэўненым, што верных чытачоў „Нівы" знайшоў.

Пісаў я ў „Ніву" пра некаторых нашых пастаянных падпісчыкаў, між іншым, са Старога Ляўкова, Лешукоў, Плянты і Свінароў. Шкада, што іх усё менш, што адыходзяць яны ад нас, паміраюць. Няма іх ужо ў Плянце і Свінароях. У кастрычніку гэтага года на 90-м годзе жыцця пакінула нас пастаянная чытачка „Нівы" з Плянты Валянціна Самойлік. Пахавалі яе на могілках у Новым Ляўкове (тут у грабніцы пакоіцца яе муж). Няхай зямля будзе ёй пухам! **(яц)**

# Пяюць сем'і па-беларуску

**«Пявучыя сем'і» — адна з навейшых ініцыятыў Беларускага грамадска-культурнага таварыства, задуманая яшчэ сакратаром БГКТ Валянцінай Ласкевіч. Пяты раз запар у сядзібу Галоўнага праўлення па вуліцы Варшаўскай, 11, у Беластоку збіраюцца аматары беларускай песні — слухачы і выканаўцы, якіх не зможа асенняя аўра, для якіх гэта яшчэ адна сустрэча з роднай песняй. У фінансаванні мерапрыемства БГКТ дапамагло Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі Польшчы.**








— Вельмі прыемна прымаць вас у сценах Беларускага таварыства пры нагодзе «Пявучых сем'яў», — пачаў імпрэзу намеснік старшыні ГП БГКТ Васіль Сегень. — Вітаю перш за ўсё выканаўцаў песень, тых, хто іх рыхтаваў, і ўсіх тых, хто прыйшоў дапамагаць ім сваёй прысутнасцю ў самых лепшых выкананнях беларускай песні. Ад сёлета гэта не конкурс, а агляд, без конкурсных асновы, без вылучаных месцаў. Але гэта не абазначае, што ніякіх узнагарод — ці хутчэй падарункаў, не будзе. Пяты раз выступаюць сем'і, якія не пасарамеліся падзяліцца сваім спевам з публікай, якая багата сабралася ў зале, каб паслухаць родную песню. Я хачу пажадаць спевакам, якія ўпершыню прыбылі на мерапрыемства, каб гэта не было іх першае выступленне на сцэне, і нашага таварыства, і іншых беларускіх сцэн. І падзякаваць, што вы спяваеце па-беларуску, не забываеце беларускіх песень; спадзяюся, што будзеце пераказваць, перадаваць беларускую песню юным артыстам. А гэта сведчанне толькі таго, што беларуская песня будзе гучаць на Беласточчыне і ў Польшчы яшчэ доўгія, доўгія гады. Далучаюцца новыя сем'і, у якіх жыве традыцыя пяяць разам і адважваюцца выйсці з гэтым да іншых, на сцэну. Для некаторых спевакоў гэта дэбют выступу на сцэне з беларускай песняй. З'яўляюцца таксама новыя песні. Сустракайце артыстаў, не шкадуйце вашых браваў...

Самыя гарачыя апладысменты атрымалі, здаецца, першапачаткоўцы — вучні з Непублічнай праваслаўнай школы свсв. Кірылы і Мяфодзія, якія зусім не хваляваліся ад выступлення — былі пад чулым вокам вядучай, сваёй настаўніцы Юліты Сушч. Але першыя выступілі Анна і Дар'я Пятроўскія з песнямі «Ой рэчанька, рэчанька» і «Ой чорна я сэ, чорна». Малайчынкі бадзёра адпялі песеньку на словы Віктара Шведа «Мы першакласнікі» ды і «Беларусачку». Вядома, хто наймацней апладзіраваў — настаўніцы, мамы, бабулі, цёці, таты і дзядулі, а таксама і суседзі. Наталля і Марк Лаўрашукі заспявалі «Беларусачку» і «Толькі з табою», сёстры Астапчук з Грабаўкі з-пад Беластока, як заўсёды пад жывыя інструменты — «Чараўніцу» і «Палюбіла я яго», дуэт Лена і Ян Рагожыны — «Родны мой горад» ды «Касіў Ясь канюшыну». Сямейнае трыо Ізабела і Вікторыя Матышэк ды Наталля Калодка — вельмі хвалююча — «Беларусь мая» ды Шведаву «Чаму не спіш». Двухпакаленная сям'я Карповічаў (Ян, Ірэна і Грыша) з Гарадка выступіла з песнямі — як заўсёды арыгінальна — з «Народнага альбома» — «Паляўнічы», ды народнымі «Сонейка на небе» і «Крынічэнька» — віншуем Янку Карповіча з найвялікшай узнагародай Гарадоччыны — «Белым Грыфам». Іншыя вядомыя ад дзясяткаў гадоў — дуэт Люба Гаўрылюк і Ала Каменская з Козлікаў заспявалі «Дубок» і «Бярозку», сямейнае трыо «Мама і сыночкі» — мама ды Адрыян і Цэзар Данілюкі трымалі гонар Міхалова песнямі «Ты квітней, мой сад» ды «Тапаля», а калектыў «Лайланд» — тата і дачка — выканаў песні «Цячэ вада ў ярок» ды «Ой да асыпаецца вішнёвы сад». Тут ансамблю ўжо не трэба шукаць новай вакалісткі — вырасла пад вокам таты Багдана Астапчука і мамы Альжбеты свая — таленавітая прыгажуня Аляксандра, сястра Ані і Юліты. Пад дбайным вокам і вухам Багдана трымаўся ўвесь гук мерапрыемства ў Беларускім клубе.

— Трэба заахвоціць малодшае пакаленне, — кажа Люба Гаўрылюк. — Я трымаюся фальклору. Фальклор, гляньце, трывае. Іншыя песні то так перакруцяць, то сяк, але жыве тое карэнне, што нашы прабабкі ўзгадоўвалі, тыя старадаўнія песні. І людзі прыходзяць паслухаць, як жывы спявак пяе, як музыка іграе, а не з плэйбэку каб ім пускалі, і каб ім за гэта «ляпалі». Ну, брыдкае слова тое «ляпанне», давайце нам бравы, апладысменты, шчыра пляскайце ў далоні — спевакоў так цешыць гарачае прынянццё публікі!

— У нас з Эляй тры дачкі — Юліта, Анна і Аляксандра, — кажа пасля спеваў Багдан Астапчук. — Я і сам вучыўся іграць і спяваць. І так засталося. Вельмі ганарымся нашымі дочкамі. Мы як ансамбль «Лайланд» спяваем чвэрць стагоддзя. За ўсе гады назбіралася і ўзнагарод, і дыпломаў. Дыпломаў цэлая сцяна, і дыпломаў дачок ужо паўсцяны! Вядома, не для ўзнагарод спяваем. Вялікая радасць, калі людзям песні падабаюцца. Робім новую кружэлку. Ад пачатку — ужо з салісткай Оляй. Тры разы пачыналі былі з новымі салісткамі. А цяпер бачым і чуем, што Оля будзе ў самы раз. Думаю, што вясною кружэлка будзе гатова. Ужо пазапісвалі крыху. Будзе там і песня на словы спадарыні Валянціны Мядзведзь, і на словы... Яўгена Вапы пра каханне над Нарвай. Народныя.

Ужо традыцыйна пасля агляду пад сцэну або і на сцэну ўзбіраюцца спевакі з публікі. Не суняць было Янкі Шыманюка з Семяноўкі, які выступіў — сапраўдны шоўмен! — з песнямі, жартамі і прытупваннем, пасля Янка Дамброўскі з душэўнымі песнямі (ён жа і сам піша вершы-песенькі) ды іншыя. Яшчэ і Гарадок паўтарыў пару сваіх песень з рэпертуару «Хутара». Калі б не надышла пара канчаць мерапрыемства, мабыць, цягнулася б яшчэ яно даўжэй і сваціліся б да позняга вечара лямпы ў Беларускім клубе — бо так яго звалі калісь. Можа, варта вярнуцца да тае назвы і дзеянняў? Беластоцкія беларусы з ахвотай сустрэліся б у жывых сцэнах па Варшаўскай, 11, у Беластоку, месцы не толькі на віртуальнай, музейнай карце Беластока.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**



# Тут спатыкаюцца Захад з Усходам

■ Злева направа: Арнольд Брэш, Эва Драўс, Кшыштаф Іванюк, Дыянізы Смолень, Артур Касіцкі, Артур Собань, Дарыюш Стэфанюк, Томаш Жухоўскі, Марцін Орлась

Пад такім лозунгам 25 і 26 верасня адбыўся ў Беластоку шосты Усходні эканамічны кангрэс. Адзін са шматлікіх панэляў быў прысвечаны выклікам будучыні для Усходняй Польшчы.

**Артур СОБАНЬ**, віцэ-міністр інвестыцыі і развіцця: — Інфраструктурныя сродкі для Усходняй Польшчы ў бягучай бюджэтнай перспектыве на транспартную інфраструктуру — на дарогі, чыгунку, куплю табару — ужо падзелены; астаюцца яшчэ сродкі для прадпрыемстваў, на іх ініцыятыўную інкубацыю і развіццё.

**Дарыюш СТЭФАНЮК**, віцэ-маршалак Люблінскага ваяводства: — Люблінскае ваяводства мае ўсяго 46% даходу на асобу ў параўнанні з еўрасаюзнай сярэдняй, і каля 70% адносна сярэдняй для Польшчы. Такая сітуацыя з'яўляецца вынікам шматгадовых занядбанняў і цягам 15 гадоў мы не былі ў змозе ўсё надрабіць. Лічу, што падтрымка для Усходняй Польшчы павінна быць размеркавана раўнаважна, не толькі для ваяводскіх цэнтраў; у Люблінскім ваяводстве ад гэтага найбольш скарыстаў Люблін: дарогі ці сродкі камунікацыі. Але ёсць меншыя асяродкі, якім пагражае выключэнне. Калі глянуць на выключаныя гарады Польшчы, якія трацяць свае гаспадарчыя функцыі, гэта невялікія гарады на Усходняй сцяне. І калі маем праграму, мэтай якой раўнанне шанцаў, то тыя сродкі павінны прызначацца на развіццё тых меншых гарадоў. Для прыкладу веладарога GreenVelo — гэта выдатная ініцыятыва, але я б хацеў, каб на ўсёй яе працягласці была веладарожка, а не трэба было лавіраваць між аўтафурамі. Мы з'яўляемся акном Еўрасаюза на свет, тут трэба выкарыстоўваць Шаўковы шлях, спалучэнні з Беларуссю, Украінай, Літвою — гэта, па-мойму, такі наш козыр, які трэба ўлічваць. Мы, тут на Усходзе, намнога лепш спраўляемся са сродкамі з прызначаных нам фондаў, бо кожную залатоўку дакладна шануем, бо ведаем, што ніхто іншы нам іх не дасць, у нас гэта добра выкарыстаныя грошы.

**Эва ДРАЎС**, віцэ-маршалак Падкарпацкага ваяводства: — Падкарпацце стартавала з нізкага ўзроўню — 36% ПДВ на асобу, сёння — 49% у еўрасаюзным маштабе. Вялікія прадпрыемствы Цэнтральнай прамысловай акругі прайшлі грунтоўную рэструктурызацыю, што стварала многа развіццёвых бар'ераў, з чаго было вялікае беспрацоўе і выезды маладых людзей у іншыя рэгіёны і краіны. Гэтыя бар'еры дзякуючы праграме развіцця Усходняй Польшчы ў вялікай ступені элімінуюцца. Важна будаваць камунікацыйныя вузлы, якія дазволяць карыстацца паасобным суб'ектам міжнароднымі шляхамі, як Via Carpatia. Бо буйныя інвестыцыі размяшчаюцца там, дзе добрыя камунікацыйныя вузлы.

**Артур КАСІЦКІ**, маршалак Падляшскага ваяводства: — Важнай праблемай з'яўляюцца чыгуначныя перагрузачныя тэрміналы, каб выкарыстаць наша палажэнне на ўсходнім напрамку. Важным з'яўляецца таксама выкарыстанне курортаў, якія з'яўляюцца перлінамі Усходняй Польшчы; у нас Супрасль і Аўгустаў. Таксама важнымі з'яўляюцца інвестыцыі ў водную гаспадарку, пачынаем мець праблемы з засухай, м.інш. ужо адчувае гэта сельская гаспадарка.

**Артур СОБАНЬ**: — Мы правялі даследаванне, якія рэгіёны пад пагрозай маргіналізацыі і тут дамінуе Усходняя Польшча. За выключэннем вялікіх цэнтраў амаль увесь гэты абшар пад пагрозай. Хочам запусціць такую праграму, якая будзе прысвечана тым менавіта абшарам.

**Томаш ЖУХОЎСКІ**, дырэктар Управы краёвых дарог і аўтастрад: — Да 2023 года павінна быць поўнасцю завершана Via Baltica. Каля Элку сыдуцца S16 (з Ольштына ў Аўгустаў), S61 (частка Via Baltica) і S19 (частка Via Carpatia). Уезд у Беласток з боку Варшавы, які зараз у разгары разбудовы, будзе завершаны цягам двух гадоў.

**Артур КАСІЦКІ**: — Прэзідэнт Беластока абяцаў даць ход уезду яшчэ сёлета.

**Кшыштаф ІВАНЮК**, войт Тарэспальскай гміны, старшыня Звязу вясковых гмін: — Я задумваюся, чаму ёсць Усходняя сцяна, калі іншых сцен — паўночнай, паўднёвай ці заходняй, няма. Гэта істотна — бо заўсёды Усход застаецца ззаду. Люблінскае да апошняга пашырэння было найбяднейшым рэгіёнам ЕС. Але гляньма, у нас 3,5% росту, калі румынскія рэгіёны маюць звыш 8% і мы зараз зноў будзем найбяднейшымі. Да таго ж Праграма для Усходняй Польшчы толькі ў адной трэці развяжа інфраструктурныя праблемы вясковых гмін. І складана будзе ліквідаваць тыя белыя плямы; да таго ж асвета, школы, прадшколлі, яслі — у трэці польскіх гмін няма яшчэ публічнага прадшколля. 40% палякаў жыве на вёсках, а калі ўлічыць мястэчкі, то і палова. З усходняга боку Віслы маем некалькі большых гарадоў, па другой старане — некалькі дзясяткаў. Трэба помніць, што зніжаецца ўзровень еўрасаюзнага дафінансавання, што трэба будзе больш ад сябе ўносіць. А ў нас найбольшыя гарады завінавачаныя да мяжы магчымасцей, амаль палова малых гмін не мае апаратыўнай надбаўкі, якая б для тых праграм мела б грошы. 85% сродкаў з рэгіянальных праграм ішло ў ваяводскія цэнтры. Трэба большай салідарнасці ўнутры краіны. Мы не карыстаемся нашым палажэннем; мы часта гаворым што мы на мяжы Усходу і Захаду. У Польшчы трэць тавараў з Кітая: чаму яны маюць ехаць цераз Гамбург, Ротэрдам ці іншыя нямецкія парты? Уся польская сельская гаспадарка пастаўляе каля 1,5% ПДВ. Калі ўдасца запусціць новы Шаўковы шлях, то столькі ж атрымаем з тых 5%, якія будуць нам належаць ад еўрасаюзных пошлін. Гэта вынік, які здараецца раз на тысячу гадоў, і калі мы адпаведна не пакарыстаемся, то расіяне ўжо рыхтуюць альтэрнатыву: шырокі пуць цераз Украіну ў Вену — на 2032 год канкрэтна. Выкарыстайма гэтае наша палажэнне між Усходам і Захадам, хай яно перастане нам быць вечным праклёнам, не стаўляйма новай Берлінскай сцяны на Бугу, бо граніца між Польшчай і Беларуссю нядаўна мела 8 шлагбаўмаў, зараз 18. Граніца між Польшчай і Беларуссю нагадвае граніцу між Віфлеемам і Іерусалімам — усё новыя слупкі вылазяць. Мы ж з Беларуссю не ваюем; пакарыстаймася нагодай. Будуем аўтастраду на Украіну, якая там пераходзіць у сяміметровую дарогу, якой Украіна не плануе разбудоўваць. А ў нас наадварот: з Усходу маем з 1980 года аўтастраду Алімпійку з Брэста ў Маскву, а ў нас што? А ахвотныя карыстацца гэтым шляхам ёсць. Завершма тую аўтастраду А2, бо яна таксама з'яўляецца элементам Шаўковага шляху. І гэтыя пан'еўрапейскія шляхі павінны мець абсалютны прыярытэт дзеля выкарыстання нашага палажэння для гаспадарчага развіцця. Ахвотныя ёсць, толькі трэба расштопарыць пагранпераходы. Кітайцы наведваюць нас і пытаюць: сем дзён едзе таварны поезд сем тысяч кіламетраў ад кітайскай граніцы да Малашэвіч, а семсот кіламетраў па Польшчы едзе чатыры дні: як гэта так? У нас, папраўдзе, лагістыка папраўляецца ўпершыню ад 1950-х гадоў. Выклікаў перад намі многа, коўдра закароткая, да таго ж яшчэ дойдзе ахова клімату, ахова вод — коштаў гэтага яшчэ не палічылі, не гаворачы пра элементарную інфраструктуру, якая патрабуе каля пяціста мільярдаў злотаў. Нашы тут гміны штораз бяднейшыя. Для нас найважнейшыя дарогі, бо чыгункай не ўсюды магчыма даехаць — недзе той вакзал, дзе поезд трэба пакінуць і далей дарогаю. І не можа так быць, што будзем мець прыгожыя аўтастрады, а калі з іх з'ехаць, то будуць мясцовыя дарогі. Нам трэба ўзбуйняць гранічную інфраструктуру — нам трэба новых мастоў; пешы рух, малы памежны рух — гэта накручванне дробнай гаспадаркі, бо пры граніцы заўсёды павінна быць такая магчымасць. Не ўяўляю, каб вечна ствараць бар'еры. Калі хто раз паедзе ў прыгожы Брэст, то другі раз будзе задумвацца, ці варта прабівацца праз тыя пагранслужбы, якія малапрыязныя для тых, якія перамяшчаюцца цераз мяжу.

**Томаш ЖУХОЎСКІ**: — Аўтастрада А2 (з Варшавы да пагранперахода ў Тарэспалі) будуецца, да 2025 года да Брэста даедзем.

**Арнольд БРЭШ**, дырэктар Польскіх чыгуначных ліній: — Неўзабаве хочам давесці прапускную здольнасць перагрузачнай станцыі ў Малашэвічах да 55 пар цягнікоў у суткі. Далёка прасунуты размовы з беларускім бокам пра будову новага гранічнага моста.

**Артур СОБАНЬ**: — У свеце такі вопыт, што прыгранічныя рэгіёны не маюць лягчэй, толькі цяжэй.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

зорка

для дзяцей і моладзі

# Дзеці засыпалі нас пытаннямі!




Хто думае — той ставіць пытанні!

Старая мудрасць шмат кажа пра нашу навуку. Праўда, мы звыкліся, што пытанні ставяць настаўнікі. Нам трэба слухаць і даваць правільныя адказы. Але гэта далёка не так. Памылка — пра што ведалі ўжо старажытныя філосафы, гэта таксама «падказка». Яна застаўляе спыніцца, задумацца. Звычайна гэта вынік недапрацаванасці. Або падказка, што адну рэч можна ўспрымаць шматбакова. І тут не абысціся ўжо без пытанняў! Яны прыводзяць суразмоўцаў да згоды. Ці можа наадварот, да розных меркаванняў. Тады ёсць жывыя думкі, ёсць радасць з размовы.

Усё гэта пішам не без прычыны.

На мінулым тыдні наведалі нас дзеці з бельскай «тройкі». Для часткі з іх сустрэча ў рэдакцыі явілася як рэвізіт. Дзеці з інтэграцыйнага чацвёртага «б» класа гасцявалі на старонках «Зоркі». Ім было цікава даведацца як нараджаецца газета:

— Як з тэлефона перанесці здымкі ў газету?- пыталі дзеці. — І ці трэба іх рабіць у нейкім назначаным месцы? Простае на першы погляд пытанне датычыла камунікацыі праз вобраз. Дзеці разумеюць, што ў газеце ўсё набывае іншыя памеры. Партрэты людзей звычайна ў шмат разоў паменшаны. Інакш яны не змясціліся б у ніякай газеце. І што зрабіць з прасторай, якая навокал? Што захаваць, а што пакінуць?

У кожнай газеце ёсць рэдактар-дызайнер, які займаецца апрацоўкай тэкстаў і здымкаў. Ён так гаспадарыць прасторай, каб змясціць увесь матэрыял у адным месцы. Часам, калі праз некалькі адрэзкаў ідзе цыкл, для лепшай эфектнасці, дызайнер прыдумвае адну віньетку.

Ці сучасныя дзеці думаюць толькі пра тэхнічныя загвоздкі і навінкі?

Нашы госці даказалі, што тэхналогія гэта не ўсё.

— Ці ў нашым узросце вы хацелі стаць журналістам? — пыталі дзеці. — І пра што вы хацелі пісаць у школьныя гады?

У школе звычайна пра такое не думаеш. А калі ўжо — дык падбіраеш нешта падобнае. І тут пайшла размова пра кніжкі. У іх знойдзем свае зацікаўленні. Яны ажыццяўляюць мары, вядуць да развіцця зацікаўленняў. Яны адкрываюць вочы на свет. Калі больш ведаем, больш бачым, больш адчуваем, больш разумеем.

Словам, без чытання мы здольны толькі на тупыя паўторы і капіраванне.

Хлопчык, які спытаў пра дзіцячыя мары, сам прызнаўся ў сваіх планах. Яго мара — стаць спартовым каментатарам. Чаму? Спорт — яго радасць і захапленне.

Папраўдзе, дзеці засыпалі нас пытаннямі, ды не было магчымасці ўсіх паслухаць. Яшчэ ў гэты дзень яны наведалі кіно і Музей «Бацькаўшчына» у Рыбалах. Многа назіранняў прынесла таксама падарожжа з Бельска ў Беласток. Па дарозе віталі іх разнаколерныя лясы, загадкавыя «страганы» з гароднінай у Рыбалах ды каровы і конікі на лугах абапал шашы. Таксама ў рэдакцыі «Нівы» апрача падарункаў усіх чакаў творчы сюрпрыз. Наша паэтка Міра Лукша прачытала свой цудоўны верш «Дуб» з кніжкі «Спеў дрэў».

**Зорка**

**Фота Ганны Кандрацюк**

**Міра ЛУКША**

## Асеннія лісты

Вецер вее! –
кажа лістку лісток. –
Трымайцеся кожны
за свой хвасток!
Ужо мы зжаўцелі
і пачырванелі,
стаміліся за лета,
на галінках селі,
крыху аддыхацца
перад дарогай,
а тут той вецер,
нейкая трывога?
Куды панясе нас
той вецер асенні?
Можа, застанемся,
і прыроду зменім?
Будзем, хоць пажоўкшы,
на дрэве трымацца.
Нашто перад зімкай
па свеце бадзяцца?..
Нам пара такая,
жыцця завяршэнне.
Пакінем галінкі,
пакінем карэнне.
А вясною новыя
выгадуе дрэва,
і жыць будзе лісце
з сокам і са спевам,
і ў палёт апошні,
зайздросціўшы птахам,
паляцяць у вырай
каляровым шляхам.

## УВАГА КОНКУРС!

## № 28-19

**Загадкі з роднай хаткі**

**Чатыры браты бягуць — адзін другога даганяе, але ніяк не зловіць, а калі дагнаў бы — дык шыю адзін другому зламаў бы!**

**К...**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 24 лістапада 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на загадку № 41: венік.**

**Узнагароды, сшыткі з беларускім арнаментам, выйгралі Лена Малмышка, Вікторыя Бароўская, Габрыеля Красько з Арэшкава і Магда Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Міфы
## старажытных беларусаў

Усе мы ведаем вясельную песню «Гарэла сосна, палала...». Вобраз агню ў вясельных абрадах і песнях невыпадковы. Чаму? Зразумееце ўсё гэта, калі прачытаеце наш чарговы міф, які ў гэты раз прысвечаны першастыхіі — АГНЮ.

Нашы продкі з набожнай далікатнасцю і ўвагай абыходзіліся з гэтай стыхіяй, якая спрычынілася да стварэння свету і жыцця. Агонь у сэрцы — гэта таксама сімвал кахання, якое спрычыняецца да нараджэння новага жыцця.

Наш адрэзак адрэдагаваны паводле кніжкі Алены Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей». У публікацыі мы прыводзім (па меры магчымасцей) прыклады з роднага Падляшша. **(гак)**

## Агонь

Нашы продкі верылі, што агонь трапіў на зямлю дзякуючы Перуну — богу грому і маланкі. Усявышні паслаў яго на зямлю, каб пакараць нячысціка, які спакушаў да граху Адама і Еву. Рагаты схаваўся за ясень, таму Бог падпаліў дрэва перуновай маланкай.

Каб засцерагчыся ад перуновых стрэл, на ліштве* над уваходам або на «каньку»** хаты нашы продкі выразалі разеткі з выявай Перуна.

У старажытнасці агонь успрымаўся як жывая істота, якая дапамагае сагрэць і накарміць. Быў і другі бок гэтай стыхіі — агонь мог усё спаліць і знішчыць. Таму з ім абыходзіліся далікатна і надта прынцыпова. Лічылі, што на агонь нельга пляваць, каб на языку не з'явіліся балячкі. Агонь нельга было заліваць вадой, чакалі пакуль усё дагарыць і патухне. Забаранялася таксама пазычаць агонь у вялікія святы і чужым людзям. На Падляшшы наогул у першы дзень Вялікадня не палілі ў печы. Самыя прынцыповыя продкі, абыходзіліся без агню цэлы светлы тыдзень. Яны верылі, што агонь можа спалохаць памерлых, якія прыходзілі да сям'і ў гэты час.

Асабліва паважліва беларусы ставіліся да «жывога» агню, які здабывалі з драўляных кавалкаў шляхам трэння адзін аб адзін. На масленіцу падпальвалі сімвал зімы — «Маранну», на Купалле раскладалі вогнішча. Яно мела ачышчальную моц і праграмавала здароўе і ўдачы ў надыходзячым годзе. Агонь быў саправнікам у надта крытычныя моманты. У час эпідэмій запальвалі «ачышчальныя» вогнішчы з двух канцоў вёскі.

Сімволіку агню выкарыстоўвалі ў вясельных і пахавальных абрадах. Лічылі, што ён можа знішчыць чары і ўсякае зло, што начаўплі ведзьмакі супраць маладой пары. Для гэтага перад уездам у двор вясельнага воза ў варотах спальвалі стары сноп.

Калі ў сям' і нехта паміраў, то ўслед за труной у пасудзіне неслі гарачае вугалле з хатняй печы памерлага, ставілі яе на магілу, перавярнуўшы дагары дном. А на другі або трэці дзень пасля пахавання спальвалі стружкі ад габлявання дошак ад труны. Сёння ў памяць старажытных абрадаў запальваем знічкі на магілах.

Па Падляшшы, калі нехта ішоў пазычаць агонь, ён моўчкі браў прысак (гарачыя, распаленыя вугельчыкі) і моўчкі сыходзіў. Таму пра кароткія і маўклівыя сустрэчы ў нас кажуць: Зайшоў як па агонь!

* Ліштва — накладная, звычайна фігурная планка вакол дзвярнога і аконнага праёма.

** Канёк — разное ўпрыгожанне страхі, пераважна ў выглядзе конскай галавы.

## Размалюйце!



## Польска-беларуская крыжаванка № 45-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 41-2019:**

Перапёлка, мох, пранік, ген, баран, парасятка, род, мур, клад, вырай, сад, загалоўкі. Ікс, плод, лаз, барада, гарод, перад, Парнас, вол, нямы, Лена, Тураў, ікра, аскома.

Узнагароды, сшыткі з беларускім арнаментам, выйгралі **Мая Куптэль, Оля Сачко, Юлька Мелеш, Барыс Ястжэмбскі** з Нараўкі. Віншуем!



Частка 4

# Генетычны алфавіт



Маланка гэтым разам была настолькі рэзкай і кароткай, што яе святло на імгненне сказіла на сцяне партрэтную выяву Фелікса Дзяржынскага настолькі, што здавалася, быццам той страляе з пісталета сістэмы „Маўзер" прама ў суразмоўцаў. Але грукат перуна пагрэбаваў далятаць да слыху старых крамлёўскіх прыяцеляў і ўсё скончылася толькі скажэннем выявы. Стрэл не адбыўся. Толькі вецер паласнуў даждж ом па шыбе і завыў ваўком. А Фелікс Эдмундавіч на партрэце праз хвіліну зноў набыў пачатковы выгляд, нададзены яму савецкім мастаком.

— Ну, давай да справы, — прапанаваў член Палітбюро, ён жа апаратчык палітычных структур, ён жа высокапастаўлены партыйны работнік, ён жа... (далей засакрэчана). — Раз паклікаў ноччу, то нешта важнае. Не красці ж яблыкі ў сад да бабкі Мані паклікаў. Можа заробкі ў нашых рабочых не адпавядаюць мажлівасці выжыць?

— У нашага ведамства больш высокія задачы, чым заробкі рабочых і іх здольнасці да выжывання, — буркнуў суразмоўца.

— Ну так-так, — пагадзіўся госць.

Абодва замоўклі рэзка і як па камандзе. Калі камуністы сцвярджаюць, што ў іх аднолькавыя думкі, то гэтым разам тое было праўдай. Пасля слоў „у нашага ведамства больш высокія задачы, чым заробкі рабочых і іх здольнасць да выжывання" абодва суразмоўцы з сорамам прыпомнілі нядаўні поўны правал іх дзейнасці, калі падчас урачыстага ўезду ў Крэмль экіпажаў касмічных караблёў „Саюз-4" і „Саюз-5" адбыўся замах на самога генеральнага сакратара ЦК КПСС Леаніда Ільіча Брэжнева. А спецслужбы нічога не ведалі пра падрыхтоўку гэтага замаху. Пашанцавала яшчэ, што быў забіты шафёр машыны і паранены матацыкліст. Спецслужбоўцам пашанцавала, вядома ж. Але не шафёру з матацыклістам. А каб тыя адзінаццаць куль, якія выпусціў стралок, патрапілі ў кагосьці іншага, чыё імя гаварыць страшна?! Лепш не думаць пра такое, а то за адны думкі могуць расстраляць проста ля крамлёўскай сцяны з кулямёта „Максім". Далёка і адводзіць не стануць. А тое, што думкі не знікаюць бясследна, а кладуцца ў выглядзе справаздач на сталы кіраўнікоў адпаведных структур, абодва суразмоўцы не сумняваліся ні крапелькі. Таму хутчэй, пакуль не позна, трэба было выпаўзаць з сеткі сваіх думак і перайсці да спраў.

— А справа такая, — цяжка ўздыхнуў генерал, нібыта на памінках па самім сабе. — Амерыканцы закідваюць на нашу тэрыторыю свайго шпіёна!

— Вось жа навіна, — усміхнуўся член Палітбюро і тут жа закашляўся, як старая перхаўка перад сконам. — Яны ж толькі гэтым і займаюцца. Работа ў іх такая, блін, шпіёнаў засылаць. Як і у нас, дарэчы. Давай адкажам ім люстэркавымі мерамі. Закінем на іх тэрыторыю нашага разведчыка. Яны за гэта вышлюць нашага дыпламата з краіны. А мы вышлем іх дыпламата. Ці некалькі дыпламатаў, ражон ім у бок. Яны ў адказ вышлюць нашых некалькі. Пойдзе зноў нейкі рух, нарэшце. А то, па праўдзе гаворачы, засядзеліся мы ўжо без сур'ёзных спраў. Дарма народны хлеб ядзім.

— Не-не. На гэты раз усё значна больш сур'ёзна, — твар спецслужбоўца, нібыта каб падкрэсліць сур'ёзнасць сказанага, набыў таксама сур'ёзны, нават звышсур'ёзны, і нават звышсур'ёзна-ўрачысты выгляд. — Яны нас перайгралі гэтым разам. Часова перайгралі. Наш рэванш то не за гарамі. Але пакуль што іх тэхналогіі сталі мацнейшымі ў галіне генетыкі. Яны закідваюць шпіёна, які народзіцца тут, у нас!

— Як гэта?! — рука высокага госця адсунула ў бок гарбату і на аўтамаце пацягнулася за каньяком.

— Вось-вось! Я гэта прадбачыў. Таму і наліў каньяку, — ганарова заківаў галавой гаспадар, бо лічыў, што яго здольнасць прадбачыць паводзіны іншых падкрэслівае яго ж высокі прафесіяналізм.

— Працягвай, — асушыў кілішак член Палітбюро.

— Ну то прашу максімальна засяродзіцца, як у гульні ў падкіднога дурня. Калі каротка, то сітуацыя крытычная, як падчас Карыбскага крызісу. І яшчэ горшая. Па загадзе Дзяржаўнага дэпартамента ЗША на тэрыторыі СССР народзіцца амерыканскі шпіён. Ён не будзе закінуты на нашу тэрыторыю на сакрэтным парашуце навейшай распрацоўкі і ніякім іншым старым, правераным або нававытанчаным метадам, як гэта рабілася традыцыйна. І нават не будзе завербаваны амерыканскай разведкай тут з нашых грамадзян. Ён тут народзіцца, прама ў нас пад носам! Народзіцца як грамадзянін Савецкага Саюза! Можа, некалі і камуністам стане. Ліпавым, канешне.

Член Палітбюро выпіў другі кілішак каньяку нагбом. Добра, што абачлівы генерал паспеў яго напоўніць своечасова. Вочы палітычнага дзеяча СССР расшырыліся настолькі, наколькі дазваляла анатомія. Зрэнкі расшырыліся яшчэ больш, чым вочы. (Яшчэ адна анамалія ў гэты дзень.)

Высокапастаўлены партыйны работнік ужо даўно стараўся не паддавацца эмоцыям. Дактары забаранілі. Сёмы дзясятак размяняў як-ніяк. Але тут выпадак асаблівы, нават нечым экстравагантны.

— Які каварны і подлы план, — ледзьве вымавіў ён здзіўленым тварам. Так-так, не вуснамі, а менавіта цэлым тварам, дзе кожны мускул рухаўся ў такт рэзкім і адрывістым гукам. — Вось гэтыя амерыканцы! Як прыдумаюць што, то абавязкова на пантах. Яны без усяго могуць абысціся, але толькі не без пантоў. Але як гэта мажліва?

— Мажліва. Усё мажліва. Я ўжо гаварыў, што амерыканскія тэхналогіі ў галіне генетыкі, на жаль, апярэдзілі нашы. Яны падрыхтавалі мужчынскае семя аднаго з вядомых амерыканскіх шпіёнаў і ўдасканалілі яго. Мы знаем, хто ён, гэты шпіён, але гэта нам нічога не дае.

— Чаму?

— Таму што дзіця ад яго не будзе да яго падобным. Наадварот. Яно будзе непадобным да яго.

— Як гэта ім удасца?

— Вельмі проста, Іван Іванавіч.

— Генерал, вы мяне назвалі па імені?! Тут! У гэтых сценах! — Іван Іванавіч ажно прыўзняўся з крэсла, а яго калені затрэсліся. Толькі невядома ад чаго. Ад нямогласці і напругі ці ад страху.

— Так, назваў. І гэта яшчэ адна кепская навіна. Амерыканцам вядомыя нашы цяперашнія імёны. Больш сакрэціцца на гэтым полі няма сэнсу. Гэта ўсё адно калі б мой амерыканскі калега сёння змяніў бы пад анамальным вашынгтонскім сонцам колер скуры, а мы пра гэта не даведаліся б. Смешна.

— А што, у Вашынгтоне спёка? — недаверліва прамармытаў Іван Іванавіч.

— Спёка як у цэнтры пекла, — упэўнена адказаў генерал і дадаў: — Прынамсі, калі гаварыць пра кабінет майго заакіянскага калегі.

— Як так? Я толькі што з вуліцы, і там праліўны дождж, які льецца з неба, як з трубы, у дадатак яшчэ такой жахлівай цёмнай чорнай ноччу! — здзівіўся палітык.

— У Вашынгтоне яшчэ і дзень, — саркастычна ўсміхнуўся спецслужбовец.

Іван Іванавіч хітравата ўтапырыўся ў яго позіркам, правяраючы, жартуе той ці не. Нейкія байкі распавядае яму стары прыяцель. Штосьці з містычнай сістэмы адноснасці Альберта Эйнштэйна хіба. Член Палітбюро чуў пра такога, і пра тое, што нібыта навуковы свет ужо прызнаў той факт, што ўсё ў свеце адносна. Але каб ажно настолькі, што ў адным месцы дзень, а ў другім ноч, гэтага палітык не чакаў.

— Быць не можа такога! А чаму гэта ў нас ноч, як у амерыканцаў дзень? Несправядліва, — асцярожна вымавіў ён не зводзячы з субяседніка вачэй, нібыта хацеў прапаліць позіркам у яго галаве дзірку, каб дакладна прачытаць там думкі.

— І я так думаю, што несправядліва. І тое, што яны ведаюць нашы імёны таксама прыкра, — адказаў той.

— Ну што ж, Фёдар Фёдаравіч, так нават прасцей, — махнуў рукой палітык. — Як гаворыцца, з адкрытым забралам пойдзем. Усе карты раскрытыя, і зараз гульня ў адкрытую. Ну дык, вернемся да таго шпіёна.

— Гэта звышшпіён. Гэта новыя тэхналогіі. Гэта іх амерыканскае ноу-хау, — вярнуўся да шпіёнскай тэмы генерал.

— Што-што?

— Ноу-хау. Я дакладна і сам не ведаю, што гэта такое, бо і яны не ведаюць да канца. Адным словам навайвядзенне. Але гэта не важна. Назваць можна хоць як. Хоць хау-ноу.

— Чаму хау-ноу? Што такое „хау-ноу"? Гаўно нейкае, — не зразумеў партыец.

— Гэта я так, для прыкладу. Не падабаецца хау-ноу, можна хоць „гоп-стоп" ці як яшчэ, — растлумачыў спецслужбовец. — Тут важная сутнасць. А сутнасць у тым, што іх навукоўцы ў сваіх сакрэтных лабараторыях ужо змянілі ў гэтым семені некаторыя кампаненты. Яны гэта ўмеюць. У іх жа генетыка як навука не была пад забаронай. Гэта ў нас яе называлі прадажнай дзеўкай імперыялізму. Вось цяпер гэтая прадажная дзеўка народзіцца тут, у нас, прадажным хлопцам. Прычым амерыканскім агентам. І нейтралізаваць яго будзе надзвычай складана.

— Ну, так, грэшны, прызнаю, — адмахнуўся Іван Іванавіч. — Ну, выступаў я супраць генетыкі. Было. Але як моцна выступаў! І вынікі былі! Памятаеш, як я гэтых медыкаў, што за генетыку заступаліся, размазаў! Некаторых нават пасадзілі. О, які я быў у маладосці актыўны, як племянны рысак на калгасным лузе, дзе пасуцца кабылы. А з генетыкай пракалоўся. Прызнаю. Ну, памыліўся! З кім не бывае? Справа мінулая. Не трэба тут былое варушыць. Веліч камуніста не ў тым, што ён не памыляецца, а ў тым, што можа, калі таго запатрабуе партыя, прызнаць свае памылкі. Хопіць пра гэта. Ты лепш скажы, у чым складанасць з гэтым шпіёнам.

Вецер за акном зноў завыў ваўком. Спачатку ваўком. Пасля цэлай воўчай зграяй. А пасля яшчэ большай воўчай зграяй. І нечакана замоўк. Нібыта вырашыў падслухаць.

— Складанасць у тым, — нервова працягваў генерал, канчаткова згубіўшы пільнасць і не зважаючы, што вецер прыціх, — што на генетычным узроўні семя гэтага шпіёна амерыканцы ўдасканалілі да дасканаласці. Прабачце за каламбур. Ён будзе не падобны ні да свайго бацькі, ні ўвогуле да якога-небудзь амерыканца. Ні да белага, ні да цёмнаскурага, ні да азіяцкага перасяленца, ні да амерыканскага індзейца, ні да марсіяніна з іх тупых фільмаў, ні да...

— А да каго тады ён будзе падобны? — перабіў бясконцы пералік рас Іван Іванавіч.

— Ён будзе падобны да беларуса, — прастагнаў Фёдар Фёдаравіч.

Вецер за акном ірвануў, як шалёны сабака, сарваны з ланцуга і забрахаў. Хаатычна так забрахаў, нібыта дзёр пры гэтым у ашмоцце шапкі крамлёўскіх вартавых і кусаў іх за начышчаныя да бляску чорныя боты. І зноў затаіўся.

— Ух ты! — Іван Іванавіч ажно прысвіснуў. — Вось жа гады! Увесь час дзіўлюся іх вераломству. Ты паглядзі! Ды што ты будзеш рабіць! І што далей?

— Яго цяжка будзе вылічыць. Ён будзе сама дасканаласць. І ніхто яго не адрозніць у натоўпе ад іншых. Бо ён будзе выглядаць як самы звычайны беларус. Як вы ведаеце, з беларусамі вечная бяда. Ніколі не здагадаешся, пра што яны думаюць і ці думаюць пра што ўвогуле. Яны ўсе выглядаюць як самыя звычайныя людзі, але пры гэтым могуць быць кім заўгодна. У іх нацыянальным фальклоры адзін з самых распаўсюджаных персанажаў гэта ваўкалак.

— А хто гэта?

— Гэта такая істота, якая хоча сабе быць чалавекам, то ёсць чалавекам, а хоча ваўком, то пертвараецца ў ваўка.

— А пасля назад у чалавека можа? — шчыра пацікавіўся палітык.

— Можа! — упэўнена адказаў генерал.

— Ух ты! Вось жа гэтыя беларусы! Ніколі б не падумаў! А з выгляду дык самыя звычайныя людзі. Вось бы нашым агентам такія тэхналогіі!

— Вось і я пра гэта. Таму для разведчыка беларусы — вельмі складаны матэрыял. Не паддаюцца аналізу. Ніколі не ведаеш, чаго ад іх чакаць. Хоць здаецца, што ведаеш. Ходзяць такія, ніколі наўпрост не адкажуць. А ўсё: „Скуль я магу ведаць", ці: „Свет вялікі, усё можа быць". Вось такая парадаксальная складанасць. А тут гэты беларус будзе яшчэ і не зусім беларус, а зусім амерыканскі шпіён. Хоць і беларус. Ну маці то ў яго будзе мясцовая, беларуска. Невядома, канешне, ад каго ён возьме больш — ад бацькі-амерыканца, ці ад мамкі-беларускі. Але, калі больш возьме ад мамкі, ведаючы тых беларусаў, гэта можа быць яшчэ больш небяспечна, чым ад амерыканскага бацькі.

— Так-так. Ну то, больш падрабязна давай, што там за казус такі?

(працяг будзе)

Віктар САЗОНАЎ

# У Орлю лячу як на крылах

**Размова з Лідзіяй МУРАЎСКАЙ з Орлі, у дзявоцтве Нестэровіч, 1936 года нараджэння, зараз пенсіянеркай, жыхаркай Любліна, раней настаўніцай і выкладчыцай рускай мовы.**

**— Ці Вы помніце сваіх дзядоў? Ці дома ўспаміналася пра бежанства?**

— Не знала я дзядоў ні з боку маці з Крывой, ні з боку бацькі з Орлі. У бежанстве былі ў Самары бацька Канстанцін з сёстрамі Шурай, Галенай і Нінай ды іхнімі бацькамі. Расказвалі, што бацька служыў у Чапаева.

**— Ці Вашы бацькі ўспаміналі жыдоў?**

— З жыдамі бацька жыў добра; бацькі тады жылі па вуліцы Пасвятнай. Кожнага вечара заходзіла да нас сужонства Зэйман і Голда. Прыходзіў заўсёды ў доўгім кажусе, і гуляў са мною: я яго ганіла, а ён уцякаў ад мяне. І тыя жыды ў час акупацыі, калі яшчэ не было гета, мелі ў нас прыгатаванае сховішча на вышках у аборы і стадоле. Мелі яны бадай двое дзяцей і тыя дзеці выгаварыліся перад немцамі пра сваіх бацькоў. Маіх бацькоў уратавала тое, што бацька гнаў добрую самагонку і частаваў ёю немцаў, калі прыходзілі да бацькі, а мама рабіла добрыя каўбасы; і дзякуючы таму да бацькоў не прычапіліся.

Калі жыдоў вывезлі, то іх рэчы складвалі ў будынку сінагогі. Туды многія хадзілі патайком нешта сабе забраць. Маю старэйшую сястру Кацю захапіў знянацку немец і калі яе вёў, яна тлумачыла, што з'яўляецца сіратою і таму туды пайшла. Гэта ўзрушыла яго, сказаў ёй вярнуцца і набраць з тае сінагогі. То Каця прынесла дадому многа рэчаў. Так мама расказвала нам і многім людзям; сястра была такой хітрай.

З расказаў ведаю, што як саветы гналі немцаў у 1944 годзе, то частка ранейшага гета гарэла. Наш бацька там ратаваў, упаў з даху, загарэўся і крыху адхварэў той выпадак.

**— Што Вы запамяталі з пачатковай школы ў Орлі?**

— Дакладна помню тую хвіліну, калі малой дзяўчынкай пайшла я ў школу; загадчыкам быў Федарук. Маімі аднакласнікамі былі Галіна Пішчатоўская (Такажэвіч), Ірына і Тамара Хмялеўскія, двaіх Аляксандраў Мураўскіх, Зыгмунт Пішчатоўскі, Янак Багацэвіч... Маёй выхавацелькай з першага па чацвёрты клас была Галена Цежухова — была гэта дама, жонка афіцэра, які загінуў у Катыні. Мяне асабліва ўражвала тое, што яна ўвесь час была з намі, сваімі вучнямі. Ніколі нас не пакідала, нават на перапынках хадзіла з намі, забаўляла. Навучала песень, якія мы ахвотна спявалі і танцавалі, напрыклад „Poszedł dudek z sową w taniec, tra la la. I nastąpił jej na palec, tra la la. Panie dudku źle tańcujesz...". А мяне да танца заўсёды запрашаў Аляксандр Мураўскі, мой пазнейшы муж — была гэта любоў з маленства. Ды не толькі ён — Ян Война, наш сусед, усе свае малюнкі прысвячаў мне. І Ігар Цімафеюк са Шчытоў-Навадвораў, пазнейшы зэтэмповец, здольны прамоўца...

Пазней, у старэйшых класах, мелі мы ўжо розных настаўнікаў. У іх ліку быў Мікалай Нэстэровіч, бацька вядомага кінаапeратара. І Васіль Лашкевіч, выдатны чалавек, які заўсёды прыгадваў нам байку Івана Крылова п.з. „Дзве бочкі". У ёй каціліся дзве бочкі: адна пустая, другая поўная — раздаючы характэрныя гукі; байка адносілася да пустой гаворкі. Помню, як выклікаў ён нас да адказаў і часам гаварыў: „Ну, пустая бочка, сядай." [Лашкевіч у 1964 годзе вучыў і мяне і тады вучням, якія размаўлялі на ўроках, даймаў яшчэ: „Млын меле — мука будзе, язык меле — бяда будзе" — М. М.] Вучыла таксама ягоная жонка Варвара, прыгожая была, заўсёды ў капялюшыку, рукавічках, апранутая


Фота Міхала МІНЦЭВІЧА

як манекеншчыца. Для нас яна была казачнай царэўнай.

У школе была таксама рэлігія, але тады нашага бацюшку Уладзіміра Цэхана трактавалі вельмі кепска, пагарджалі, насміхаліся з яго. [Як расказваў мне Мікалай Багацэвіч з Орлі, Цэхану памерла жонка і пасля нейкага часу ўзяў ён для дапамогі ў кухні нейкую бедную дзяўчыну. Гэта не спадабалася некаторым арлянам і пачалі яму дакучаць, напрыклад, выліваючы фекаліі на дарогу ад тае служанкі да плябаніі — М. М.]

**— Ваша далейшая адукацыя?**

— У Орлі я нават сямі класаў не закончыла. Пасля шостага класа, зважаючы на мае спрытныя рукі і ігнаруючы маю мару стаць дантысткай, мама вырашыла, што я павінна стаць краўчыхай. Паслала мяне ў Бельск вучыцца шыць. Пасля года такой навукі я рашыла паступіць у педагагічную школу — тады былі вельмі патрэбныя настаўнікі і да экзаменаў усіх прымалі ахвотна. Дырэктарам гэтай школы быў Скок, які навучаў беларускай мове. Быў ён пажылы і пасля яго дырэктарам стаў Мікалай Канашынскі, мажны мужчына. Нашай выхавацелькай была настаўніца біялогіі. Гісторыі навучалі Карачуны. Педліцэй быў у тым жа будынку, што і белліцэй. Выдатнымі педагогамі былі паланістка Такажэвіч і настаўніца матэматыкі Марчукова, якая сумела навучыць нават найбольшых тупіц. Паланістка гаварыла на чыстай польскай мове, вучыла добра і ўсе яе шанавалі. Ды і вучні ў той час інакш адносіліся да настаўнікаў, ды і настаўнікі былі іншыя. Для прыкладу, Цежухова з падстаўоўкі выхоўвала нас усебакова — вучыла нас есці, спаць, размаўляць, глядзець на чалавека. А сёння вазьмі і знайдзі такога настаўніка, які б столькі часу прысвячаў вучням. Такой выхавальніцы, якой была Цежухова, я больш ніколі не сустрэла. Лічу яе сваім узорам для пераймання і, хто ведае, ці не таму лічылі мяне добрым педагогам.

**— Ваша першая праца?**

— У педліцэі трэба было ездзіць на практыкі ў школы і здаваць залікі ўсіх прадметаў. Трапляла пераважна ў вёскі і малыя мястэчкі, дзе настаўнікі былі асабліва патрэбныя. У час практыкі ў Дубінах закахаўся ў мяне малады настаўнік матэматыкі і дапамагаў мне рыхтавацца да ўрокаў. Прыязджаў да мяне нават у Кракаў, калі стала там штудзіраваць.

Пасля завяршэння ліцэя пачала я працаваць у гайнаўскай школе Таварыства прыяцеляў дзяцей; пасля вайны было шмат такіх школ. Гайнаўская школа была прыгожая, побач тадышняга белліцэя, насупраць тартака. Вучылі там пераважна маладыя настаўнікі, але былі і старэйшыя; жонкай дырэктара школы была Зіна Федаровіч з Орлі. Мне даручылі весці заняткі па фізкультуры ў дзяўчат. Я была натрэніравана дзякуючы сваёй актыўнасці ў школьным узросце: зімою ездзіла ў Орлі на лыжах, прымала ўдзел у лёгкаатлетычных спаборніцтвах, спартыўных зборах. У гайнаўскай школе я навучала таксама рускай мове (беларускай там не было). Я вельмі любіла сваю працу, якая давала мне вялікае задавальненне. Я заўсёды старалася дапамагаць слабейшым вучням, рыхтаваць іх, заахвочваць да навукі...

**— Вы любілі сваю працу а таксама давучваліся. Як у той час было з паступленнем на штудыі?**

— Не дазвалялі штудзіраваць. Перапрацаваўшы нейкі час у Гайнаўцы я даведалася пра набор на рускую філалогію ў Кракаве. У той час трэба было адрабіць тры гады г.зв. працоўнага загаду, а я гэтай нормы яшчэ не выканала, працавала толькі два гады. Ад гэтага патрабавання былі вызвалены толькі актывісты, „камсамольская моладзь", якім пуцёўкі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы давалі школы, у якіх яны працавалі. Пайшла я са сваёй справай да дырэктара школы, але той развёў рукі і сказаў, што нічога не можа зрабіць. Тое самае сказалі і ў кураторыі — тры гады працоўнага загаду і ні дня менш! Я, аднак, сама вырашыла паехаць у Кракаў на экзамен. І паехала, а праз нейкі час атрымала павестку, што прынялі мяне. Пабегла я з гэтай навіной у сваю школу, а там і слухаць не хацелі пра мой адыход з працы. Дырэктар школы развёў рукі: „Што ж, я вас сілай затрымаць не магу". Але калі я ўжо была ў Кракаве, з кураторыі прыйшло паведамленне, што за самавольную адмову ад працы мне не будуць прылічаны да працоўнага стажу гады маёй работы ў Гайнаўцы. Такое мела быць пакаранне мяне, але я ўжо махнула на гэта рукою; але тыя два гады, аднак, прылічылі. У час штудыяў выйшла я замуж за Аляксандра Мураўскага, майго сябра з падстаўоўкі.

**— Ваш муж быў вайсковым лекарам; што абазначала быць жонкай вайскоўца? Як вучні ставіліся да рускай мовы?**

— Пасля штудыяў стала я працаваць настаўніцай рускай мовы ў пачатковай школе ў Лодзі; мой муж тады штудзіраваў у тамашняй Вайсковай медыцынскай акадэміі. Ці жыхара цэнтральнай Польшчы можна навучыць рускай мове? У Лодзі, дзе я пачынала працу пасля завяршэння штудыяў, дзеці з чацвёртага класа гарнуліся да навукі, а мне самой прыносілі нейкія сувеніры. У той час руская мова не лічылася нейкім горшым ад іншых прадметам і я заўсёды мела добры кантакт з вучнямі.

**— Вайскоўцаў пераносілі з гарнізона ў гарнізон?..**

— Пасля мы перасяліліся з Лодзі ў Холм. Муж стаў на працу ў вайсковай базе і дадаткова ў заразным шпіталі. Жылі мы на тэрыторыі вайсковай часці, у пакінутым саветамі пасёлку. Гэта былі найлепшыя гады маёй працы, бо ж была я яшчэ маладая. Па суботах ладзіліся танцавальныя вечарыны ў казіно, дзе сервіравалі вельмі смачную ежу. Я стала на працу ў эканамічным ліцэі і настаўніцкай штудыі адначасна. Разышлася вестка, што я з'яўляюся выдатнай русісткай... Дырэктар сельскай школы ў недалёкім Акшэве (цяпер гэта квартал Холма) двойчы ў тыдзень прысылаў па мяне шафёра і я таксама вучыла ў тамашняй школе. У той час настаўнікі працавалі таксама па суботах.

Давялося, аднак, памяняць працу, бо ў вайсковых сем'ях службовыя перасяленні на парадку дня. Сумна было расставацца са школамі, з вучнямі. Дырэктар холмскай школы наракаў мне, чаму пакідаю ягоных вучняў, якія патрабуюць майго сэрца а не толькі гаварыльнай машыны.

**— Ваша месца працы было звязана з месцам працы мужа. Ці Вашы дзеці пайшлі па Вашых слядах?**

— Мужа перавялі на службу ў Люблін, дзе я пачала навучаць у прафтэхвучылішчы, пасля тры гады ў ліцэі ды далей стала выкладчыцай рускай мовы ва Універсітэце Марыі Складоўскай-Кюры; працавала там у 1977-1996 гадах. Асабліва многа заняткаў вяла на юрыдычным факультэце і напісала канспект па рускай мове для студэнтаў права, які ахопліваў крымінальную, адміністрацыйную і цывільную праблематыку. Калі мне споўнілася шэсцьдзясят гадоў, адышла на пенсію. А калі б даўней не пераадолела стаўленых перада мною бар'ер, дык засталася б настаўніцай фізкультуры ў Гайнаўцы.

Муж Аляксандр хутка атрымаў званне палкоўніка. Напэўна атрымаў бы і далейшае павышэнне, але ён сам не хацеў нікуды з Любліна адыходзіць. Ён быў вельмі сумленны, нават празмерна. Сабе ніколі нічога не аформіў (нават свайму сыну не памог уладкавацца на працу), толькі іншым дапамагаў. Памёр ён васямнаццаць гадоў таму, не дажыўшы нават шасцідзесяці пяці. Не хвараў, але меў анеўрызму на брушнай артэрыі ды запозна рашыўся на аперацыю, якой не вытрываў. Спачыў ён на праваслаўных могілках у Любліне.

Наша дачка Кася вывучыла англійскую мову і працуе ў Любліне. Сын Алік вывучыў ветэрынарную прафесію, аднак беручы пад увагу несприяльную кан'юнктуру займаецца іншай дзейнасцю — ён камерсант у Гіжыцку; гэта яму адпавядае, бо і водныя спорты любіць.

Родная Орля зараз з'яўляецца адзінай мясцовасцю, да якой лячу як на крылах. І хаця ўжо не кірую самаходам, то кожны год я тут.

**— Дзякую за размову.**

Размаўляў Міхал МІНЦЭВІЧ

# «Дакажыце, што няма Гуменюка»



Выйшла ў свет трэцяя пасмяротная кніга беларускага паэта і журналіста Юрыя Гуменюка. Сёлета 24 верасня яму споўнілася б 50 гадоў. У 2013 годзе адбылася трагедыя — Юры Гумянюк выпаў з дзявятага паверха інтэрната ў Гродне па вуліцы Сухамбаева, што знаходзіцца побач з ягоным домам. Прычына ягонай смерці па-ранейшаму застаецца таямніцай. Пахаваны ён на гарадзенскім могільніку ва ўрочышчы «Сакрэт».

Юрый Гумянюк скончыў Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт, аддзяленне паланістыкі. Сябра Таварыства вольных літаратараў, Саюза беларускіх пісьменнікаў і Беларускага ПЭН-цэнтра. Аўтар кніг паэзіі: «Водар цела» (Полацак, 1992), «Твар Тутанхамона» (Полацак, 1994), «Рытуал» (Полацак, 1999), «Вуліца тыгровых архідэяў. Вершы 1987-2003» (Беласток, 2003) і рамана «Апосталы нірваны» („Калоссе", № 2-3, 1995). Працаваў загадчыкам літаратурнай часткі Гарадзенскага тэатра лялек, карэспандэнтам газеты „Пагоня", быў пастаянным аўтарам штомесячніка „Часопіс". Працаваў для Беларускай службы Польскага Радыё для Замежжа і для Радыё Рацыя. Аўтар п'ес для дзяцей «Баль у барона Мюнхаўзена» (1993), «Таямніца залатога пярсцёнка» (1998), «Каляднае падарожжа» (1999), пастаўленых у Гарадзенскім тэатры лялек, дакументальнай сагі «Прывід даўніх Крэсаў» (2004-2005); шэрагу крытычных артыкулаў пра літаратуру, выяўленчае мастацтва і тэатр. Сурэдактар літаратурна-мастацкага альманаха «Калосье». Беларускія рок-гурты «Грунвальд», «Айша», а таксама асобныя выканаўцы стварылі на тэксты Юрыя Гуменюка каля дзвюх дзясяткаў песень. Пасмяротна выйшлі кнігі «Назаві мяне геніем» (Гародня, 2013), кніга эсэістыкі і нарысаў «Краіна нязьдзейсьненых мараў» (Менск, 2014) ды апошняя — «Захлынуцца апантанасцю жыцця», трэцяя кніга, якую сябры паэта выдалі пасля яго смерці, аб'ядноўваючая яго журналісцкія матэрыялы — рэпартажы, інтэрв'ю, артыкулы і карэспандэнцыі. Алесь Аркуш: — Яго публіцыстычныя тэксты згадваюць той час — перыяд пераходу 20-га стагоддзя ў 21-ае. Цікава прачытаць пра тыя падзеі, і пабачыць іх вачыма Юрыя Гуменюка.

У цёплай сяброўскай атмасферы прайшла прэзентацыя найноўшай кнігі Юрыя Гуменюка ў беластоцкай краме-клубе „Sljedzik". Сабраліся сябры паэта ды маладыя беларусы, для якіх постаць паэта стала магічнай і легендарнай. Цікава, па-сяброўску, пазгадвалі Юру.

— Шмат пачуў я невядомага пра Юру, — сказаў ягоны даўні сябра, супрацоўнік і выдавец **Алесь Аркуш**. — Самую забойную гісторыю расказала **Ганна Кандрацюк.** Захацеў быў Юра Гумянюк піва. Зайшоў у краму і купіў пляшку. Але так хацелася, што літаральна на ганку адкаркаваў і пачаў піць. А тут і міліцыянты: «Ага. Непарадак». Дасталі свае паперы і давай складаць пратакол. Адзін з іх раптам задраў голаў уверх і аж прысеў ад здзіўлення: «Кідай яго, хутчэй», — загадаў ён калегу, які пісаў. Пабеглі. Юра падняў вочы: на гаўбцы суседняга з крамай дома Паша Мажэйка вывешваў бел-чырвона-белы сцяг. Усё як мае быць, бо 25 сакавіка. Ганна Кандрацюк згадала, што Юра любіў хадзіць у капелюшы: «Напэўна ў яго была цэлая калекцыя капелюшоў». Святлана Куль удакладніла: „Быў у Юры перыяд, калі ён хадзіў у бярэтцы. Нейкі час я жыла на шляху Юры да прыпынку. І раніцай часта бачыла праз акно, як тая бярэтка праплывала побач з маім домам». Дарэчы, любімы капялюш Юры, самы франтаваты, зараз захоўваецца ў Музеі беларускай літаратуры.

Прафесар, доктар гістарычных навук **Святлана Куль** згадвала Гуменюка (а таксама іншых сваіх творчых сяброў, адышоўшых у іншы свет, якія дагэтуль з'яўляюцца яе балючай інспірацыяй) як вельмі арыгінальнага творцу. „Ён настолькі быў смелы! І думаю, нават не толькі таму, што яго ніхто не цэнзураваў. Справа ў іншым. Гэта была ўнутраная раскаванасць. Абсалютная. Для яго не было нейкіх забарон. Менавіта быў пратэст супраць усіх межаў, шораў — усяго, чаго хочаш. І ў асабістым жыцці, і ў апрананні, і ў вершах. Шкада, што вось гэты накірунак ва ўмовах сучаснай Беларусі, гэты андэграўнд, не мае працягу, няма куды яму развівацца".

Прафесар, доктар гістарычных навук **Алег Латышонак** адзначыў, што паэта Юрыя Гуменюка нарадзіў таксама адраджэнскі ўздым пачатку 90-х гадоў. — Можа гэта і час быў такі, што беларусы хаця б крыху сталі свабоднымі. Я тое бачыў, як разняволіліся людзі, як гэта адбывалася. Як было фантастычна. І нават на фоне гэтага ўсяго ён яшчэ і вылучаўся.

Другую па забойнасці гісторыю пра Гуменюка расказала Міра Лукша, — мяркуе Алесь Аркуш. — Некалі даўно Юра заклаў рахунак у беластоцкім банку, на які атрымліваў заробак і ганарары. У банку Юра пазначыў для карэспандэнцыі хатні адрас Міры. І да яе прыходзяць банкаўскія карэспандэнцыі дасюль. Дык вось, на рахунку засталося было 86 грошаў, якія Юра пакінуў пару дзён да сваёй смерці. Цяпер за вядзенне рахунку банк патрабуе пару соцень да заплаты. І хаця Міра паведамляе банк, што ўласніка рахунку няма ў жывых ужо больш за пяць гадоў, не мае аднак легальнага пасведчання пра яго выхад, дык банкаўскія чыноўнікі не прымаюць гэтага пад увагу, і рахунак расце. «Дакажыце, што няма пана Юрыя Гуменюка». А і не дакажаш — выходзяць яго кнігі, а пісьменнік жывы датуль, пакуль чытаюцца ягоныя творы. **(лук)**




Беларускія ўлады намагаюцца прыцягнуць у краіну турыстаў. Жаданне зразумелае, бо большая іх колькасць, натуральна, прынясе больш валюты ў бюджэт краіны. Праўда, па свайму неразуменню лукашэнкаўскія ўлады часцяком спрабуюць прыцягнуць увагу іншаземцаў тым, што апошнім не вельмі цікава — напрыклад, лініяй Сталіна, будынкам Нацыянальнай бібліятэкі ці якімі-кольвек іншымі новабудамі. Ідэйныя нашчадкі камуністычных разбуральнікаў помнікаў культуры з цяжкасцю ўсведамляюць, што замежнікам цікава беларуская аўтэнтычнасць, а не перапевы савецкіх прапагандыстаў.

Разам з тым ёсць людзі, якія па ўласным жаданні, ну і зразумела з прыбыткам для сябе, рэальна спрыяюць прыцягненню ўвагі турыстаў. Адным з прыкладаў такой з'явы з'яўляецца праект Vitaem, што распаўсюджвае сувенірную прадукцыю.

Сайт праекта месціцца па адрасе **http://www.vitaem.by**. Яго каляровая гама даволі спакойная — пераважаюць белы і салатавы колеры. На галоўнай старонцы прадстаўлена тая сувенірная прадукцыя, якую распаўсюджвае сайт. Перш за ўсё — кубкі. Яны аздоблены выявамі зуброў, нацыянальным арнаментам, надпісамі „Я люблю Беларусь".

„Vitaem — гэта гандлёвая марка сучасных сувеніраў пра Беларусь. Аднойчы ўбачыўшы, што ў Беларусі нацыянальныя сувеніры прадстаўлены ў асноўным аўтэнтычнымі рэчамі, пераважна ручнога вырабу, нам прыйшла ідэя вытворчасці новых прома сувеніраў, аб'ядналых у асобныя калекцыі. У 2010 годзе мы распрацавалі і пачалі вытворчасць простых, але яркіх, адказваючых духу часу, сувеніраў невысокага кошту. Прадукцыя даволі хутка стала папулярнай і мы пачалі пашыраць калекцыі і павялічваць аб'ёмы вытворчасці", — распавядаюць пра сваю задумку стваральнікі брэнду на старонцы „Праект". Сваёй асноўнай мэтай, распаўсюджваючы дадзеныя сувеніры, яны лічаць папулярызацыю Беларусі як краіны для турыстаў, а таксама выраб рэчаў з нацыянальным характарам для жыхароў беларускай краіны.

„Што такое сувенір? Нацыянальны сувенір? — задаюцца пытаннем уладальнікі сайта і адказваюць. — Гэта не проста рэч, якую госці набываюць на памяць аб падарожжы. Гэта не проста тавар, які павінен прынесці прыбытак вытворцу. Гэта рэч, якая адлюстроўвае культуру і гісторыю краіны ці месца".

Паводле інфармацыі на сайце, прадукцыя, якая праз яго прадаецца, падзелена на серыі і назвы вырабаў. Так, ёсць серыі Zubr, Васількі, Вышыванка, Belarus arnament, I love Belarus, City. Пакупнік можа набыць нататнікі, бранзалеты, бірулькі, рукавіцы, запальніцы, алоўкі, кепкі, магніты, кубкі і гэтак далей. Адным з апошніх прапанаваных вырабаў стаў аздоблены элементам беларускага арнаменту тэрмакубак з надпісам „BELARUS".

Праўда, не ўсё зразумела на дадзеным сайце. І ўсё з-за таго, што яго ўладальнікі грэбуюць пазначэннем года ў публікацыі навінной інфармацыі. Так, у рубрыцы „Новы сайт" ад 5 лістапада паведамляецца: „Вітаем Вас на новай інтэрнэт-старонцы маркі Vitaem! Пакуль сайт працуе ў тэставым рэжыме і папаўняецца інфармацыяй. Мы будзем удзячны Вам за заўвагі і прапановы па яго паляпшэнні". З усяго вышэй пададзенага няясна, у якім годзе дадзены сайт з'явіўся і чаму ён дагэтуль лічыцца новым і працуючым у тэставым рэжыме.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

## *90 гадоў з дня нараджэння*
# Змітрака КУНІЦКАГА

Беларускі пісьменнік, паэт Змітрок Куніцкі (сапраўднае прозвішча Уладзімір Стральцоў) нарадзіўся 8 лістапада 1929 г. на хутары Ліпавая Гара (Расонскі раён). Сам творца так апісаў гэтую падзею: „Нарадзіўся на хутары дзеда, тым, што Ліпавай зваўся Гарой. Мне лучына была першасветам, першай радасцю, першай зарой". Яшчэ немаўляткам Уладзімір разам з бацькам Пятром і Аленай Стральцовымі апынуўся ў Полацку. Пад Полацкам сям'я неўзабаве набыла дастаткова вялікі хутар. Там яны нават сеялі жыта. У гэтую ж мясцовасць перабралася бабуля Кацярына Аляксандраўна (бацькава маці) разам са сваім сялянскім скарбам і кароўкай. Аднак у 1939 г. бальшавікі ўсе прыгарадныя хутары сагналі ў пасёлак паўз Себежскай шашы і зямлю людзям істотна абрэзалі.

Калі на тэрыторыю Полаччыны ў 1941 годзе прыйшла Другая сусветная вайна, бацька Уладзіміра Стральцова ў бліжэйшую зіму прапаў без вестак дзесьці пад Масквой. Уся астатняя сям'я: старэйшы „мужык" Уладзімір, бабуля, маці, брат Фёдар, сёстры Ірына і Клара ў нямецкую акупацыю жылі ў Полацку. Малодшая сястра Клара, аднак, памерла ў 1942 г. ад запалення лёгкіх. Перажыць нягоды ваенных гадоў дапамаглі швачная праца маці, кароўка ў гаспадарцы, сезонныя працы братоў — нарыхтоўка сена і дроў, якія зімой вазілі на саначках.

Да вайны Уладзімір скончыў чатыры класы дзевяцікласнай школы, а ў 1948 г. — сем класаў сямікласнай. Пасля гэтага паступіў вучыцца ў мастацкую рамесную вучэльню сталіцы Латвіі Рыгі. Праз тры гады атрымаў атэстат па спецыяльнасці альфрэйшчык-живапісец. Год працаваў у Падмаскоўі і Адэсе, потым служыў у савецкай арміі ў паветраных войсках. Пасля агульнай сямігадовай адлучкі вярнуўся на радзіму. Скончыў сярэднюю адукацыйную школу працоўнай моладзі.

У 1956 г. ажаніўся з Аленай Баравец, праз год на свет у сям'і з'явіўся першынец Віктар, у 1967 г. нарадзіўся другі сын — Дзмітрый. Пражыўшы чвэрць стагоддзя з першай жонкай, развёўся. Другі раз ажаніўся з Ганнай Міклашэўскай. Меў унукаў і праўнукаў.

Уладзімір Стральцоў спярша працаваў маляром. Пасля з 1960 г. — мастаком афарміцелем у Доме афіцэраў, aпаратарам на заводзе шкловалакна, загадчыкам пастаноўчай часткі і дэкаратарам пры Полацкім народным тэатры, дзе таксама граў каля дзясятка розных роляў, потым зноў быў мастаком-афарміцелем. У 1991 г. пайшоў на пенсію.

Першы верш Змітрок Куніцкі напісаў у 1947 г. Упершыню надрукаваўся ў армейскай газеце ў 1955 г. Пэўны час пісаў на расейскай мове, але ўрэшце родная мова пераважыла і з 1970-х гг. Куніцкі стаў пісаць толькі па-беларуску. З 1967 г. быў сябрам суполкі „Наддзвінне", якая тады была гуртком пры раённай газеце. У 1995 г. „Наддзвінне" атрымала статус народнага літаб'яднання. Нейкі час Куніцкі ўжо пенсіянерам працаваў там рэдактарам беларускамоўных тэкстаў.

Агулам Змітрок Куніцкі выдаў 5 кніжак вершаў, нататак, перакладаў з расейскай мовы і невялікіх апавяданняў. Гэта зборнікі „Рэха трох асін" (2000), „Тое-сёе з куфэрка памяці" (2001), „У цянётах часу" (2004), „На рубяжы тысячагоддзяў" (2009), „Сэрцаграма" (2011), друкаваўся ў розных альманахах і калектыўных зборніках.

Памёр Змітрок Куніцкі 30 верасня 2013 года ў Полацку. Пахаваны на полацкіх Лясных могілках.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

**Марыя Хлябіч** (з дому Казбярук) з Рудні, пражывае ў вёсцы Рыбакі

# Рудня - успаміны

*(верш напісаны на дыялекце вёскі Рудня)*

*Рудня*[1] — гэта вёска, як бы дзьве ў адной,
*Луплянка*[2] дзяліла яе ціхім ручаём.
У *Луплянцы*-рэчцы мы купаліс летняю парой,
На каньках езьдзілі заўсёды зімой.

Мост тут дзеравяны ўздоўж грэблі пралягаў,
Дарогу ў вербах на «*Грудок*»[3] прадаўжаў.
У вербах вясною сьпявалі салаўі,
Па вадзе на озеры плывалі дзікіе качкі.

За грэбляю, за мостам рудніцкі «*Грудок*»,
Не аднаго кавалера цягнула ў той бок.
Дзяўчаты харошы і добры тут жылі,
Таму захапілі «*Грудок*» прымакі.

Воду ў рэчцы стрымаў вадзяны млін,
Збожа ў ім мałолі на хлеб і на блін.
Закаханые пары на мост прыбывалі,
Каханьне сабе вызнавалі,
посьле лодкаю па озеры плывалі.

Мужчыны ў вёсцы заніmаліс разным рамеством.
Таксама жанчыны не ўступалі ім не ў чом.
Былі ў *Рудні* сапожнікі, печнікі, краўцы,
Мельнік і фатограф, а нават пчаляры.
Дахоўку рабілі, каб будынкі крыць,
Жанчыны пралі, ткалі, бо трэба было жыць.

Вёска невяліка, але як багата,
Была тут і сядзіба гміны, і *злеўня* малака.
Магазін-склеп званы *лаўкай* — багаты ў тавар,
на пачатку вёскі — ён усіх прымаў.

Нават бібліятэка ў вёсцы была,
каб культура ў *Рудні* развівалася.
Свае музыканты — забавы рабілі,
каб дзяўчаты і хлопцы да другіх вёсак не хадзілі.

У *Рудні*, як у горадзе, гуліцы былі,
мы па іх хадзілі адны да другіх.
*Царавы, Цясноўскіе, Гурэцкіе, Плечакі, Анхімы*,
усе паміж сабою згодна тут жылі.
Разам жыта жалі, вязалі ў снапы,
На вясельлях гулялі, патом прасілі ў *кумы*.
Было нам у *Рудні* весяло жыць,
Таму мы павінны яе не забыць.

1 *Рудня* — вёска ў цяперашняй гміне Міхалова Беластоцкага павета, пражывала у ёй каля 25 сем'яў, выселеных пад пабудову *Семяноўскага возера.*
2 *Луплянка* — названне рэчкі, прытока ракі *Нарва.*
3 *Грудок* — названне часці вёскі.

## Пісьменнікі з Беларусі ў Ляўкове

Такія сустрэчы не бываюць частымі. Ды вось 29 кастрычніка гэтага года адбылася цікавая аўтарская сустрэча пісьменнікаў з Рэспублікі Беларусь у прыгожай вясковай святліцы ў Старым Ляўкове Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. На літаратурную вечарыну прыйшлі і прыехалі некаторыя жыхары Старога Ляўкова, Новага Ляўкова, Лешукоў і Плянты.



Злева направа: Яўген Сергіеня, Уладзімір Бруй (стаіць) і Юрый Ермаковіч

У ціхі асенні вечар у Ляўкове выступілі паэт Яўген Сергіеня і празаік Уладзімір Бруй ды спявак і трубач Юрый Ермаковіч. Яўген Сергіеня з'яўляецца аўтарам пяці паэтычных зборнікаў. Вершы яго простыя, зразумелыя, змястоўныя. Паэт усхвальвае прыгажосць роднай зямлі — Беларусі, але і прыгажосць жаночага полу, піша пра імкненне чалавечага сэрца да святога. Яго вершы кранаюць сэрца і душу, калі паэт піша пра плач мужчыны-бацькі над уміраючым сынком, пра незабыўныя вочы маці, пра ссечаную ліпку або замалёўку пра матылька-летуценніка і сланечнік ды пра каня на лузе і спеў зорак. Усё гэтак вобразна, з цікавай метафарай.

Уладзімір Бруй расказаў пра свае творы, хрысціянскую прозу, між іншым, апавяданні „Нябесны банк" і аповесць „Трэцяя Бярэзіна". Увогуле празаік, які жыве ў горадзе Нясвіж — цікавы расказчык.

Юрый Ермаковіч у перапынках ад чытання лірычных вершаў Я. Сергіені прыгожа задушэўна спяваў ды іграў на трубцы.

Усе прысутныя на сустрэчы цёпла ўспрынялі выступленні пісьменнікаў з Беларусі. Было гэта незвычайнае культурнае мерапрыемства. Яно на доўгі час застанецца ў памяці нашых ляўкоўскіх слухачоў. Арганізавалі яго Галена-Марыёля Рэент, дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы і Крыстына Паскробка, кіраўнічка стараляўкоўскай святліцы.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Кусты на абочыне дарог

Паабапал павятовых дарог на тэрыторыі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета выраслі высокія кусты вербалозу і алешніку. Радныя падчас адной з сесій Гміннай рады папрасілі дырэктара Праўлення павятовых дарог (ППД) у Гайнаўцы (быў ён на сесіі), каб дарожныя службы ППД ссеклі тыя зараснікі ў прыдарожных равах.

Рабочая брыгада паехала на дарогі, між іншым, з Нараўкі ў Лесну цераз Міклашэва ды з Нараўкі ў Падляўкова цераз Мінкоўку. Кустоў яны не секлі. Прымянілі такую тэхніку, што зараз стаяць пры дарозе белыя, пазбаўленыя кары ды вострыя як штыкі г.зв. стрымбулі, куксы.

— Гэта ўжо невядома што, — сказаў мой знаёмы сябра. — На сячэнне спатрэбілася б куды больш гаручага, а вось робяць так, абы было хутчэй і ашчадней, — дабавіў ён.

Не дай Бог скаціцца з маставой у роў ды ў гэтыя кусты-некусты. Калецтва не пазбегнуць, бядзе не мінаваць. Вось і так бывае на нашых павятовых, што не кажы, дарогах. **(яц)**

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. жаночы голас = 11 _ 24 _ 25 _ 10 _;
2. паныласць, маркота, журба = 30 _ 31 _ 29 _ 28 _;
3. орган размнажэння ў раслін, зерне = 6 _ 21 _ 13 _ 12 _;
4. тысяча кілаграмаў = 22 _ 23 _ 7 _ 8 _;
5. старажытнашумерскі горад у Месапатаміі = 35 _ 34 _;
6. круглая пасудзіна для віна = 4 _ 5 _ 3 _ 33 _;
7. Іван, расійскі жывапісец (1832-1898) = 16 _ 14 _ 15 _ 26 _ 27 _ 1 _;
8. паглыбленне ў зямлі = 2 _ 19 _ 20 _;
9. пушны звярок (*Nyctereutes procyonoides*) = 9 _ 32 _ 18 _ 17 _.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | |
| 10 | 11 | 12 | | 13 | 14 | 15 | | 16 | 17 | 18 |
| | 19 | 20 | 21 | | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | | 28 | 29 | 30 | 31 | | 32 | 33 | 34 | 35 |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 41 нумара**

Поўсць, Цешын, юнга, яна.

Рашэнне: **Агню ў шапцы не носяць**.

## 10.11 — 16.11

**(22.03. — 20.04.)** 9-15.11. карысныя рашэнні. 11-13.11. у замяшанні штось можаш згубіць.12-16.11. можаш стаць ахвярай эмацыйнага шантажу. Затое моцна будзеш трымацца пры інфекцыях. З сябрамі можаш не дагаварыцца як след.

**(21.04. — 21.05.)** 11-14.11. можаш на момант страціць галаву і паддацца чуёмусь чару. 10-11.11. не ўваходзь у пустыя дыскусіі і фірмавыя інтрыгі. Маеш вельмі ўражлівы стрававальны тракт, вельмі пільнуйся пры харчаванні. 12-16.11. перад стратай кантролю над выдаткамі асцерагае цябе Венера ў квадратуры да Нептуна. Поспехі дзякуючы ўласнай кампетэнтнасці і зычлівасці іншых.

**(22.05. — 22.06.)** 9-11.11. зоркі падкажуць табе, як падысці працўніка. 10-12.11. раптоўная сітуацыя прымусіць цябе папрасіць дапамогі, але не ўсе сябры ў рэальнасці знойдуць час. Канкурэнцыя ўсё не спіць (да 18.11.). Ашчаджай свой голас, насі шалік.

**(23.06. — 23.07.)** Да 11.11. могуць цябе выключыць з якойсьці кампаніі. Паправіш старыя памылкі. Пакуль не шукай сабе другой палавінкі. 10-12.11. можаш сабраць кампанію і сарганізаваць час так, каб ніхто не нудзіўся. 9-11.11. калі ў чымсьці памыляешся ў ежы, удасца гэта паправіць, добры час на барацьбу з кепскімі звычкамі. 11-15.11. можаш спраўна прайсці крызісы, звязаныя з пакіданнем курэння. Будзь творчы і адважны, не адгонішся ад знакамітых прапаноў.

**(24.07. — 23.08.)** 10-12.11. можаш мець перабоі з лянівымі і зайздроснымі калегамі-пляткарамі, не спрачайся з імі, каб не мець страт. Разлічвай на сябе. Калі маеш сваю фірму, 11-16.11. можаш мець праблемы з адабраннем грошай ад кліентаў ці контрагентаў. Ільвы з самога канца знака будуць мець ільготы з працай, новай работай, павышэннем, лепшым заробкам. 11-15.11. знойдзеш людзей, якія пойдуць за табой у агонь. 12-16.11. могуць зноў прачнуцца прыкрыя ўспаміны. Але маеш шанц выйграць немалыя грошы.

**(24.08. — 23.09.)** 9-11.11. трапіш у самую сярэдзінку! Але 12-16.11. лепш не будзь ва ўсім упэўнены. 12-14.11. трэба будзе вярнуцца ў пачуццях да таго, што, здавалася, ужо замкнутае. Рашэння з 10-12.11. не дасца адвярнуць. Калі ты народжаны ў палове знака, можаш мець праблемы са змаганнем з установай (справы рэнты, санаторыі), прыйдзецца адклікацца. Трымайся рэаліяў.

**(24.09. — 23.10.)** 10-11.11. вернеш сабе страчаныя грошы. Энергія, жыццярадаснасць. Шчаслівы выпадак. Але 12-16.11., стараючыся задаволіць усіх, не задаволіш нікога. 12-16.11. можаш сустрэць каханне з даўніх гадоў; можа, не ўсё яшчэ кончана? На працы дзейнічай, рабі сваё — ты цяпер раздаеш карты. Абучэнні з 10-12.11. дадуць табе шанц на павышэнне ці карысную змену; інвестуй грошы.

**(24.10.—22.11.)** 10-12.11. дакажаш, колькі ўмееш і патрапіш. Але 12-16.11. хтосьці папросіць цябе выканаць для яго няёмкую паслугу. Паафармляеш усе назавершаныя справы. Пакуль у пачуццях замяшанне. На працы спакойна, памяркоўна; неўзабаве станеш лідарам. Запаволь тэмп жыцця, пастаў на ўласны камфорт і не шкадуй сабе прыемнасцей.

**(23.11. — 22.12.)** 11-12.11. будзеш мусіў ад чагосьці адмовіцца. Трэба будзе прытармазіць, крыху змяніць курс жыцця. Сімпатыя атачэння. 12-16.11. хтось цябе можа моцна зачараваць, але невядома, ці той хтось будзе мець сумленныя намеры адносна цябе. Свежыя знаёмствы з працягам. Дома дробныя непаразуменні. 9-15.11. адвагі ў прафесійным плане набярэшся, ступіш крок у невядомае — будзе лепш!

**(23.12. — 20.01.)** 9-11.11. добра пазнаеш сакрэты і слабыя бакі працўнікаў. Час на размовы, негацыяцыі, сур'ёзныя пакупкі, інвестыцыі. 13-17.11. старайся ўступаць у разборкі. Будзе цябе карціць паправіць тое, што спрацоўвае добра. 12-16.11. не прымай усяго «за добрую манету» Не абяцай зашмат па знаёмствах, наладжаных 12-16.11. Не адкідвай запрашэння з 11-13.11. — пазнаеш там новых сяброў. Не купляй і не інвестуй большых грошай аж да 26 лістапада.

**(21.01. — 19.02.)** 10-12.11. твая думка будзе вырашальнай. 11-14.11. асцерагайся гвалтоўных, імпульсіўных рэакцый. 9-15.11. адкрый свае пачуцці. Вадалей з другой дэкады — не вяртайся да няўдалых сувязей. 11-13.11. блізкія выскачаць з шалёнай задумай, трэба будзе сцягнуць іх на зямлю. Не пакідай прафесійных спраў уласнаму іх ходу. Асцярожна з электрычнасцю!

**(20.02. — 21.03.)** 10-14.11. здабудзеш тое, чаго табе не хапала. 10-12.11. будзе нагода паказаць, якім цудоўным працаўніком ты з'яўляешся. 10.11. можаш атрымаць цікавую прапанову. Задумы на бізнес не ўсе ўдасца зрэалізаваць (12-14.11.). Але 12-16.11. нават простыя рэчы могуць нарабіць табе праблем. Але ж рэзервы грошай — ненарушаныя!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва — тыднёвік беларусаў у Польшчы
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

❖Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Мастацтва Марка Сапёлкі



Надкрыццё экспазіцыі жывапісу і разьбы гайнаўскага мастака Марка Сапёлкі, якое 27 кастрычніка адбылося ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы, прыйшлі гайнаўскія жывапісцы — прафесіяналы і аматары. Частка з іх разам з Маркам Сапёлкам займаліся ў Майстэрні мастацкіх тэхнік, якая дзейнічала ў Гайнаўскім белмузеі. Сабраныя захапляліся перш за ўсё краявідамі, намаляванымі алейнымі фарбамі, якіх некалькі дзясяткаў апынулася на выставе. На цікавых працах адлюстраваны панарамы рэк Нарвы, Нараўкі, Семяноўскага заліву і наваколля Белавежскай пушчы. Марко Сапёлка прымаў удзел у дзясятках пленэраў і часта малюе алейнымі фарбамі на прыродзе. На выставе можна было прасачыць як мастак адыходзіць ад рэалістычнага адлюстроўвання рэчаіснасці ў бок паказвання акружаючага свету з большай стаўкай на свае эмоцыі і пачуцці. Марко Сапёлка паказаў на экспазіцыі ў белмузеі дзве скульптуры, выкананыя ў драўніне пад наглядам мастака з Беларусі Аляксандра Лазеркі. Гайнаўскі мастак апошнім часам моцна зацікавіўся беларускімі народнымі матывамі і хоча спраўдзіць свае магчымасці ў новым напрамку мастацтва якраз з іх выкарыстаннем.

Выставу жывапісу Марка Сапёлкі адкрыў дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк. Адзначыў ён здольнасці і добрыварштат непрафесійнага гайнаўскага мастака і прыгадаў, што экспазіцыя ладзіцца ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва», а альбом з рэпрадукцыямі прац мастака і інфармацыяй пра яго творчы шлях папоўніць «Слоўнік беларускіх мастакоў». Альбом будзе перададзены ў найважнейшыя бібліятэкі Польшчы, Падляшскага ваяводства і ў гмінныя ды школьныя бібліятэкі Гайнаўскага павета.

— Марко Сапёлка ўдзельнічаў у многіх пленэрах, арганізаваных у Гайнаўскім павеце, а таксама ў краіне і замежжы. Рэзультат малявання на прыродзе бачны на выставе. Бачым тут карціны з краявідамі рэк Нарвы, Нараўкі і іншых месцаў. Мне якраз рачныя пейзажы найбольш цікавыя. Мастак спачатку вельмі рэалістычна адлюстроўваў тое, што хацеў перанесці на палатно і на падставе гэтага складана ацаніць яго творчы патэнцыял. Пасля пачаў ён адыходзіць ад рэалізму ў пошуках іншых творчых прыёмаў. Пачаў ён шукаць сваю дарогу ў мастацтве і варта пачакаць, каб пабачыць, якой дарогай ён пойдзе, — сказаў гайнаўскі мастак Віктар Кабац.

Марко Сапёлка атрымаў другую і трэцюю ўзнагароды на Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, арганізаваным Гайнаўскім домам культуры. Ён таксама лаўрэат узнагароды другой ступені Ваяводскага агляду аматарскай мастацкай творчасці «Мастацтва штодзённае і нядзельнае». Зараз мастацкія працы Марка Сапёлкі, перш за ўсё жывапіс, знаходзяцца ў прыватных калекцыях у Гайнаўцы, Нараўцы, Нарве, Чаромсе, Беластоку, Лодзі, Хэлмне, а таксама па-за межамі нашай краіны — у Беларусі, Расіі, Англіі, Францыі, Германіі і нават у Афрыцы.

— Марко Сапёлка — непрафесійны творца, у якога на працягу некалькіх гадоў можна заўважыць значнае развіццё. Моцна на гэта паўплывалі заняткі ў Майстэрні мастацкіх тэхнік, якая дзейнічае пры Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. Чарговыя пленэры, выставы і новыя мастакі, з якімі ён спатыкаўся, паўплывалі на яго ўспрыманне рэчаіснасці, раскрылі яго мастацкія здольнасці, пашырылі яго далягляды. Зразумела, многа залежала ад яго працы, заўзятасці і бясспрэчна, ад таленту. Галоўнай тэмай і любімым матывам творчасці Марка Сапёлкі з'яўляецца падляшскі краявід. На яго карцінах знаходзім меандры ракі Нараўкі, поймы Нарвы, лугі, бярозы, вуллі, ці загубленыя сярод лясоў вёскі. У сваім жывапісе хоча ён захаваць праміналую рэчаіснасць, драўляную архітэктуру і прыгажосць прыроды Белавежскай пушчы, непаўторнай у сусветным маштабе, — напісала ў выставачным альбоме гісторык мастацтва Агнешка Ціханюк, адказная ў белмузеі за арганізаванне мастацкіх выставак. У альбоме можна таксама прачытаць, што гайнаўскі мастак эксперыментуе, малюючы пейзажы ў розныя поры дня і захоўваючы праміналую гульню святла і колеру. Яго ўлюбёнымі перыядамі малявання з'яўляюцца восень і зіма, калі па прычыне атмасферных умоў прымяняе тэхніку, за першым разам мокрае на мокрае, каб ухапіць тое, што ў краявідзе самае важнае. Мастак паспрабаваў розных тэхнік, пачынаючы ад „digital painting", па традыцыйныя тэхнікі, такія як алей, акрыл, манатыпія, лінагравюра, ці рысунак вугалем.



■ Партрэт Віктара Кабаца намаляваны Маркам Сапёлкам

— Я нарадзіўся ў 1971 годзе ў Нараўцы, а пазней жыў з бацькамі ў Міклашэве, покі не пераехалі мы жыць у Гайнаўку. З дзяцінства цікавіла мяне маляванне. Аднак больш маляваць пачаў я пасля выхаду на пенсію. Пазнаёміўся я з варштатам малявання і навучыўся мастацкім тэхнікам тут, у музеі — у Майстэрні мастацкіх тэхнік і ў Клубе мастака «Старт» Гайнаўскага дома культуры. Вельмі важным было для мяне маляванне па-за будынкам, на прыродзе і таму стаў я частым удзельнікам мастацкіх пленэраў. Выязджаў я разам з Данелем Грамацкім на пленэры арганізаваныя на Гайнаўшчыне, у Люблінскім ваяводстве і ў Хэлмне. На пленэрах я многа практычнага даведаўся ад прафесійных мастакоў, — сказаў Марко Сапёлка. — У час пленэраў, дзе ёсць вельмі добрая нагода кантакту з натурай, пачынаю маляваць алейнымі фарбамі. Хачу злавіць панараму, асвятленне і іншыя прыкметы краявіду, а пасля магу канчаць маляваць у будынку. Па-за Польшчай я пабываў на пленэрах у Пружанах на Беларусі і апошнім часам у Расіі, каля Масквы. Летам гэтага года я выканаў скульптуру ў дрэве. Аляксандр Лазерка, які з Беларусі прыязджае на гайнаўскі пленэр разьбы, пазычыў мне прылады працы, паколькі тыя, з якімі я прыйшоў разьбярыць, аказаліся непрыдатнымі.

Аляксандр Лазерка пазнаёміў свайго гайнаўскага вучня з асновамі разьбы па дрэве. У выніку скульптуры Марка Сапёлкі, якія зараз знаходзяцца на выставе ў белмузеі, атрымалі станоўчую ацэнку публікі і мастакоў.

— У Марка Сапёлкі ёсць Божы дар, талент да разьбы. Мастак павінен яго разгортваць, укладваючы сэрца і павышаючы свае ўмеласці, — заявіў Аляксандр Лазерка, які на адкрыццё выставы прыбыў з Бістыч на Беларусі. — Я хачу наладзіць супрацоўніцтва з Гайнаўскім музеем, паказаць тут сваю скульптуру і іншыя мастацкія працы, прыехаць сюды са сваімі вучнямі.

— На падставе экспанаваных прац відаць рост умеласцей і адначасна здольнасці Марка Сапёлкі, які іх разгортвае дзякуючы карпатлівай працы і ўдзелу ў шматлікіх мастацкіх пленэрах, — сказаў гайнаўскі мастак Данель Грамацкі, які вёў Майстэрню мастацкіх тэхнік у Гайнаўскім белмузеі.

— Спачатку я стараўся адлюстроўваць рэчаіснасць з дэталямі, а пазней пачаў адыходзіць у бок больш творчага адлюстравання таго, што заўважыў працуючы на прыродзе. Апошнім часам асабліва зацікавіўся я беларускімі народнымі ўзорамі. Хачу спраўдзіць свае магчымасці ў новым напрамку мастацтва, якраз з выкарыстаннем беларускіх матываў, — патлумачыў Марко Сапёлка. — На выставе знаходзяцца перш за ўсё мае алейныя пейзажы. Я малюю з натуры, але партрэт Віктара Кабаца намаляваў на аснове здымка. Арэол вакол яго галавы гэта рэшата, на фоне якога быў зроблены здымак у адной з агракватэр.

Персанальныя выставы жывапісу Марка Сапёлкі былі арганізаваны ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы і ў Белавежскім асяродку культуры. Яго карціны паказваліся на калектыўных выставах у замежжы, на пленэрных выставах у Пружанах, Смаленску і Маскве.

— Мы бачылі, як Марко Сапёлка ўзрастаў у мастацкім плане, займаючыся ў Майстэрні мастацкіх тэхнік, дзе мы таксама вучыліся маляванню, рысаванню, мастацкім тэхнікам у настаўніка мастацтва Данеля Грамацкага. Большасць з нас таксама займалася ў Клубе мастака «Старт» Гайнаўскага дома культуры пад наглядам інструктара Зінаіды Якуць, — сказалі Івона Кулік і Зінаіда Андраюк з Гайнаўкі ды Юлія Пракапюк і Марыя Храсцелеўская з Новаберазова.

— Марко вельмі працавіты чалавек. Калі перайшоў на пенсію, у яго атрымалася многа вольнага часу, частку якога прызначыў на мастацкія пленэры, мастацтва. Ягоныя краявіды цікавыя, іх тут вельмі многа. Відаць на іх рост яго мастацкага таленту. Запрэзентаваў тут таксама цікавую скульптуру, — сказаў непрафесійны гайнаўскі мастак Міраслаў Хіліманюк, які таксама займаўся ў Майстэрні мастацкіх тэхнік.

У белмузеі раней арганізаваліся персанальныя выставы Міраслава Хіліманюка і Тамары Кердалевіч з Чаромхі. Альбомы з рэпрадукцыямі іх мастацтва таксама ўвайшлі ў састаў «Слоўніка беларускіх мастакоў».

— Марко Сапёлка — ужо трыццаць пяты мастак, якому наш музей арганізаваў выставу ў рамках праекта «Беларускі алфавіт мастацтва». Праект рэалізуецца 10 гадоў, а яго мэта — прамоцыя беларускіх мастакоў і іх творчасці шляхам экспанавання іх прац і выдавання альбомаў з іх работамі і інфармацыяй аб мастаках. За гэты перыяд набылі мы многа мастацкіх прац, якія прэзентавалі ў нашым музеі. Частка нашай калекцыі паказвалася таксама ў Рэспубліцы Беларусь, — удакладніў дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк.

ISSN 0546-1960 45